НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 1 (790) 9 студзеня 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

П Е Р Ш А Я  Б Е Л А Р У С К А Я  Г А З Е Т А

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Пяць фактаў пра Віктара Шэймана

Генерал-палкоўнік Шэйман стаў памочнікам Лукашэнкі па асаблівых даручэннях. Старонка 3.

## Алег Трусаў: Лупіце на трасянцы!

«Прызначылі новага кіраўніка КДБ, а я яму адразу каляндарык з Каліноўскім». Гутарка са старшынёй ТБМ. Старонка 9.



# Лукашэнка ўзнагародзіў бізнэсоўца за кнігу пра шляхецкі радавод

**Сваім гандлёвым брэндам Анатоль Статкевіч-Чабаганаў, вядомы пад брэндам «Стэцкевіч», зрабіў родавы герб.**

8 студзеня Лукашэнка вызначыў лаўрэатаў прэміі «За духоўнае адраджэнне» і спецыяльных прэмій. Сярод іх — пісьменнік Анатоль Чабаганаў, узнагароджаны за стварэнне 4-томнай серыі гісторыка-дакументальных кніг «Я — сын Ваш».

Хто такі Чабаганаў, запыталіся многія. Сапраўды, гэтага чалавека лепш ведаюць пад прозвішчам маці.

Гэта першы беларускі бізнэсовец, які зрабіў сваё шляхецкае прозвішча і герб бізнэс-брэндам. Анатоль Статкевіч займае 64 месца ў топ-200 найуплывовейшых беларускіх прадпрымальнікаў.

Цікава, што ў расейскамоўным выданні кнігі «Я — сын Ваш» ён падае сваё прозвішча як «Стецкевич», а ў беларускамоўным — як Статкевіч. Рэч у тым, што прозвішча вар'іравалася ў гістарычных крыніцах.

Рэкламу яго групы кампаній «Стецкевич-спецодежда», упрыгожаную шляхецкім гербам, можна бачыць на мінскіх бігбордах. Статкевічу належаць Навагрудская фабрыка спецвопраткі, Гомельская абутковая фабрыка. Пад брэндам «Стецкевич» ён прадае і мэблю.

Своеасаблівай прыкметай яго паспяховасці можа быць і тое, што ўрад забавязаў яго «шэфствам» над сельгаспрадпрыемствам у Мінскім раёне.

67-гадовы Статкевіч-Чабаганаў — адзін з нешматлікіх бізнэсоўцаў свайго пакалення — вучыўся на Захадзе. Сярод яго ўніверсітэтаў, поруч з Ленінградскім інстытутам дакладнай механікі і оптыкі, Вышэйшай школай кіравання пры АПК СССР ёсць і Школа эканомікі і англійскай мовы ў Баўнмансе (Вялікабрытанія).

Анатоль Статкевіч-Чабаганаў, сярод іншага, фундаваў помнік святой Сафіі Слуцкай у Слуцку (2000 г.), узнагароджаны ордэнам князя Уладзіміра РПЦ і ордэнам Кірылы Тураўскага Беларускага Экзархата РПЦ.

Да таго ж шляхецкага роду, што і бізнэсовец, належыць і палітык Мікола Статкевіч. Ён таксама шануе свой родавы герб і нават выходзіў з ім на Плошчу ў 2010.



Анатоль Статкевіч-Чабаганаў са сваім выданнем.

Пошукам каранёў Анатоль Статкевіч займаўся 20 гадоў. Ён кансультуецца з прафесійнымі гісторыкамі, архівістамі, даследчыкамі генеалогіі, яго кнігі рэцэнзаваў доктар гістарычных навук Галенчанка.

Выданне «Я — сын Ваш» выйшла ў серыі «Летапіс беларускай шляхты», з блаславення мітрапаліта Філарэта на дзвюх мовах: па-расейску (у выдавецтве «Беларуская праваслаўная царква») і па-беларуску (у выдавецтве «Роднае слова»).

Цікава, што багаты чалавек з сучаснага беларускага бізнэсу вырашыў укласці сродкі і час у стварэнне грунтоўнага радаводу.

Каго яна зацікавіць найперш? Блізкіх і далёкіх родзічаў па тых сарака прозвішчах, даследаваных у выданні, але найперш — уласную сям'ю, нашчадкаў. У гэтым сэнсе Статкевіч нагадвае арыстакратаў ВКЛ XVI стагоддзя, якія адрасавалі дыярыушы і кнігі «нашчадку разумнаму».

**Сяргей Мікулевіч**

# Кузін: Літвінковіч ва Украіне будзе зарабляць у дзясяткі разоў больш, чым у Беларусі

**Спявак з Жодзіна стаў папулярным ва Украіне.**

Яўген Літвінковіч заняў другое месца ва ўкраінскім тэлешоу «Х-Фактар». Зрэшты, яго фанаты на форумах дагэтуль пішуць, што жодзінскага спевака засудзілі. Незвычайны вакал Яўгена стаў адкрыццём для ўкраінскай поп-музыкі.

«Цяпер уся беларуская дыяспара ва Украіне гаворыць пра яго, — расказвае стваральнік «Альфа-радыё» Сяргей Кузін, які цяпер жыве ў Кіеве і займаецца мясцовымі ФМ-станцыямі. — Чаму менавіта Літвінковіч? Мне падаецца, сённяшняй эстрадзе бракуе шчырасці, якой вельмі шмат у творчасці Яўгена. Ва Украіне такіх шоу, як «Х-Фактар», каля дзясятка. А пра Літвінковіча гавораць усе».

Кузін мяркуе, што Літвінковіч проста не ўпісаўся ў беларускі фармат. «Па ім бачна, што ён — асоба, што ў яго ёсць нейкая ментальная альтэрнатыва ў творчасці, — кажа Кузін. — Для застарэлай беларускай эстрады ён проста не падпадае пад патрэбны фармат.

У Беларусі шмат таленавітых выканаўцаў — Вольскі, Yellow Brick Road, «Срэбнае вяселле», — кажа Кузін. — Гэтыя людзі маюць поспех ва Украіне, але калі я параўноўваю іх ганарары з ганарарамі расійскіх і украінскіх музыкаў — паміж імі прорва. У Беларусі шоу-бізнэсам займаецца дзяржава, тут створаны цэлы набор квотаў і абмежаванняў вышынёй з Гімалаі».

**Юрась Ускоў**

# «Заўвагі міліцыі выклікалі неадэкватныя дзеянні»

**У навагоднюю ноч у Мінску затрымалі 20 грамадзян Сярэдняй Азіі.**

Увагу міліцыі каля Палаца спорту ўвечары 31 снежня прыцягнуў натоўп выхадцаў з Сярэдняй Азіі — усяго каля ста чалавек. Начальнік міліцыі грамадскай бяспекі ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандр Іоскін апісаў інцыдэнт так. «Паводзілі сябе непрыстойна ў адносінах адзін да аднаго і навакольных, заклікі супрацоўнікаў праваахоўных органаў спыніць супрацьпраўныя дзеянні выклікалі з боку парушальнікаў правапарадку неадэкватныя дзеянні».

У выніку міліцыя затрымала 18 грамадзян Туркменістана — студэнтаў мінскіх навучальных установаў і 2 грамадзян Узбекістана — работнікаў замежнага прадпрыемства. На затрыманых склалі пратаколы аб дробным хуліганстве.

Суд паставіўся да парушальнікаў даволі лаяльна. Восем чалавек атрымалі па двое сутак арышту, які яны ўжо адбылі з моманту затрымання. Астатнія атрымалі па 200 тысяч штрафу. Адлічаць туркменаў з ВНУ не будуць.

Такое мяккае стаўленне можна патлумачыць празаічнымі прычынамі. Беларускія ВНУ атрымліваюць стабільны прыбытак за кошт замежнікаў. А эканамічныя сувязі з Туркменістанам важныя для Мінска.

**Сямён Печанко**



## Сцісла

**Сайт Лукашэнкі абновяць за 300 тысяч даляраў**

Новы партал кіраўніка краіны плануюць запусціць ужо вясной. На яго стварэнне выдаткавана 2 мільярды 600 тысяч рублёў. Адпаведны Указ №577 «Аб удакладненні асобных паказчыкаў рэспубліканскага бюджэту на 2012 год» падпісаў 29 снежня Аляксандр Лукашэнка.

**Месі чацвёрты раз атрымаў «Залаты мяч»**

Аргенцінец Месі забіў 91 мяч за каляндарны год і дапамог «Барселоне» выйграць Кубак Іспаніі. Дагэтуль ніводнаму гульцу не ўдавалася чатыры разы станавіцца ўладальнікам такой узнагароды.

**Украіна адмаўляецца ад прызыву ў войска**

Украінская армія будзе складацца толькі з кантрактнікаў. Такі самы крок запланавала Грузія.

**Утапіўся беларускі консул у Бразіліі**

Трагедыя здарылася на пляжы ў раёне запаведніка ў Рыа-дэ-Жанейра, дзе дыпламат Сяргей Гурэўскі трапіў у моцнае цячэнне. Выратавальнікі не паспелі. Было Гурэўскаму 65 гадоў.

**Літва можа адмовіцца ад летняга часу**

Урад Літвы сабраўся высветліць, як на здароўе людзей і гаспадарчы сектар уплывае перавод стрэлак гадзіннікаў вясной і ўвосень. Беларусь ужо два гады не пераводзіць стрэлак.

**ЗП, АГ**

## Рэкамендуем

### Беларускія зоркі не адгадалі слова «канюшына»

На АНТ стартаваў забаўляльны праект «Я люблю Беларусь».

### Топ-10 тых, хто сышоў з БТ

Больш пра зорак ТБ на nn.by.

## Самае чытанае на nn.by за 26 снежня — 8 студзеня

1 Зоркі беларускага TV: топ-10 тых, хто сышоў з БТ

2 Аляксандра Герасіменя: Эстэтычна мне бліжэйшы бел-чырвона-белы сцяг

3 Мікіту Курэпіна выклікалі ў дэканат, сказалі «так жыць нельга»

4 Які гіпермаркет самы танны і самы дарагі? Рэйтынг

5 У метро пабіліся мінчукі і каўказцы — відэа

6 Фотафакт: Лукашэнка ў навагоднім звароце з'явіўся на тэлеэкранах з сямейнымі фота

7 Віктар Лукашэнка з сям'ёй выйшлі на публіку, наведалі шматдзетных

8 Сваю сям'ю паказаў і Дзмітрый Лукашэнка

9 Без адукацыі, затое з грашыма: ці зарабляюць касіры ў крамах па $700—1000

10 «Мульт асобы»: Лукашэнка спявае «Перамен» — відэа

# Віктара і Дзмітрыя Лукашэнкаў паказалі ў навінах з сем'ямі

Беларускія чыноўнікі на Новы год заняліся дабрачыннасцю — паехалі з падарункамі ў дзіцячыя дамы. На публіку выйшлі і старэйшыя дзеці кіраўніка дзяржавы.

Віктар Лукашэнка, памочнік бацькі па нацыянальнай бяспецы, з жонкай Ліліяй наведаў у Мінску шматдзетную сям'ю. Разам з імі былі і трое іх дзяцей — 15-гадовая Вікторыя, якая вырасла ў паненку, ужо вышэйшую за маму, 9-гадовы цёмнавалосы Аляксандр і маленькая 3-гадовая Валерыя. У якасці навагодняга падарунка сям'я старэйшага сына кіраўніка дзяржавы прывезла шыкоўны сервіз і салодкія пачастункі дзецям.

А вось кіраўнік Прэзідэнцкага спартыўнага клуба Дзмітрый Лукашэнка прыехаў з падарункамі ў мінскі дом дзіцяці №1. З ім былі жонка Ганна, а таксама дзве цёмнавалосыя школьніцы-дочкі, падобныя між сабой — Настасся і Дар'я.

ЯМ



Сям'я Віктара Лукашэнкі: злева направа Аляксандр-малодшы, Віктар, Валерыя, Лілія, Вікторыя.



Сям'я Дзмітрыя Лукашэнкі ў дзіцячым доме.

# Пяць фактаў пра Віктара Шэймана

Быццам бы мала памянялася: быў Віктар Шэйман **памочнікам прэзідэнта па асаблівых даручэннях** у структуры дзяржсакратарыята Рады Бяспекі, а стаў памочнікам прэзідэнта па асаблівых даручэннях проста. Аднак гэта таксама змена ў рангу: Шэйман стаў бліжэйшым да «цела».



## 1. Шлейф

Віктар Шэйман першы раз стаў памочнікам Аляксандра Лукашэнкі-прэзідэнта ў 1994 годзе, адразу пасля ягонага абрання. Пасля таго ён бываў і ў крэсле кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, і сакратара Рады Бяспекі, і генеральнага пракурора.

Памочнікам прэзідэнта па асаблівых даручэннях у структуры дзяржсакратарыята Рады Бяспекі Шэйман стаў у 2009 годзе. І з гэтай пасады курыраваў далікатныя праекты ў Венесуэле (пры гэтым сеў у турму Шаўцоў з «Трастбанка» і «Белзамежбуда»), але не толькі ў Венесуэле.

Пра вагу Шэймана як памочніка сведчыць той факт, што ў 2010 годзе ён выехаў з Масквы ў Мінск на хуткасці 140 км/г джыпам Toyota Land Cruiser са спецсуправаджэннем міліцэйскага картэжу.

У 2010 годзе Шэйман прысутнічаў на нарадах у Аляксандра Лукашэнкі па пытаннях правядзення «прэзідэнцкіх выбараў», пасля якіх здарыліся арышты і пагром апазіцыі.

Шэймана баяцца. Злавесны шлейф цягнецца ад 1999 года, калі ў бытнасць Шэймана дзяржсакратаром Рады Бяспекі (1995–2000) зніклі без слядоў генерал Захаранка, а таксама Ганчар і Красоўскі. Расследаванне гэтых гучных злачынстваў ішло ў часе генпракурорства Шэймана. На гэтую пасаду яго прызначылі ў 2000-м. Вінаватыя ў тых злачынствах дагэтуль не пакараны.



На кіцелі Шэймана больш за 40 медалёў і знакаў.

## 2. Зорка Карабоба

На парадным кіцелі Шэймана ордэнаў і медалёў як у Брэжнева.

У Леаніда Брэжнева было 16 савецкіх ордэнаў і 22 медалі, а таксама 52 замежныя ўзнагароды. На кіцелі Шэймана можна налічыць больш за 40 ордэнаў, медалёў і знакаў, праўда, меншага ўзроўню, чым у Брэжнева.

Апошнім, у 2012 годзе, Шэйман атрымаў венесуэльскі ордэн «Зорка Карабоба».

## 3. Кампрамат

Кампрамат на Віктара Шэймана публікаваў у сваім блогу палітэмігрант Алег Алкаеў.

У Алкаева быў змешчаны рапарт былога міністра ўнутраных справаў Уладзіміра Навумава да Аляксандра Лукашэнкі. У ім Навумаў паведамляе пра грамадзянскую жонку Шэймана Саўчанку, якая нібыта купіла сабе дыплом аб вышэйшай адукацыі, а таксама набыла некалькі кватэр і катэджаў у Мінску і Мінскім раёне.

Прыводзіцца расшыфроўка тэлефонных размоваў, якія, калі верыць публікацыі, вялі Шэйман з дырэктарам рынку «Ждановічы» Яўгенам Шыгалавым. Гэта было ў час, калі супраць Шыгалава распачалі крымінальную справу.

Тыя звесткі Алкаеў мог атрымаць аб беглага капітана Дудкіна, колішняга памочніка міністра Навумава.

Ці дакладныя гэтыя звесткі, няма пэўнасці. У еўрапейскай традыцыі публічнае абвінавачванне вымагае публічнага адказу. У выпадку Шэймана такога адказу не было.

Дарэчы, у свой час, а менавіта ў 1999 годзе, суд задаволіў зыск Дзяржаўнага сакратара Рады Бяспекі Віктара Шэймана да газеты «Навіны» і журналіста (былога контрразведчыка) Сяргея Аніські памерам 15 млрд рублёў. Гаворка была пра багаты дом, які, напісала газета, нібыта належыць бацькам Шэймана, а на справе — не. У выніку непамернага штрафу «Навіны» перасталі выходзіць.

## 4. Шлях ва ўладу

Дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі Шэйман быў абраны ў 1990 годзе ў Брэсце, дзе служыў. Ён перамог у акрузе, да якой належала шмат вайсковых часцей, на выбарах, што былі часткова свабоднымі. Ён перамог тэатральнага рэжысёра Рыгора Бакіевіча, кіраўніка рэгіянальнай структуры Народнага Фронту. Палітычная кар'ера Бакіевіча паспяховага працягу не мела.

А нарадзіўся Віктар Шэйман у вёсцы Салтанішкі Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці. Гэта самы-самы паўночны захад краіны, гістарычная Віленшчына. Воранаўскі раён — раён з найбольшым у краіне працэнтам этнічных палякаў. Гэта таксама зона (Шчучын, Воранава, Іўе, Ліда, Смаргонь), якая ў 1994 годзе галасавала за Пазняка, а не за Лукашэнку.

Назва вёскі паказвае, што засноўвалі яе татары, але суфікс «-ішк-» балцкі.

А вось прозвішча Шэйман ніякае не габрэйскае. Яно даволі частае ў тых краях. Быў такі мовазнавец Чэкман, ёсць гандбаліст Ацьман, гісторык Радаман. На Наваградчыне ёсць вядомы татарскі род Бляхманаў.

## 5. Голас

Менавіта голас Віктара Шэймана пазітыўна вырашыў пытанне аб зацвярджэнні бел-чырвона-белага сцяга і «Пагоні» ў 1991 годзе.

«Каб унесці адпаведныя змены ў канстытуцыю, трэ было дзве трацiны, 230 галасоў, — расказаў «Нашай Ніве» дэпутат Лявон Баршчэўскі. — Вяртанне да нацыянальных сімвалаў горача падтрымалі некалькі пастацяў, якія не належалі да Народнага Фронту. Сярод іх народны паэт Ніл Гілевіч, а таксама прэзідэнт Акадэміі навук матэматык Уладзімір Платонаў і былы сябар Бюро ЦК КПБ Георгій Таразевіч. І ўсё ж пры першых галасаваннях аднаго-двух галасоў бракавала. Было то 228, то 229 галасоў (з 347). І толькі калі Станіслаў Шушкевіч паставіў на галасаванне яшчэ раз, неабходная колькасць галасоў была сабраная.

Група артадаксальных камуністаў, якая супрацьўлялася ўвядзенню нацыянальных сімвалаў, назаўтра паспрабавала аспрэчыць рашэнне.

Было заяўлена, што дэпутат Віктар Шэйман на месцы адсутнічаў, а ў раздрукаваных выніках насупраць яго прозвішча стаяла «за». Тады сп. Шэйман устаў і заявіў, што сапраўды ён галасаваў «за». Такім чынам адпаведны закон уступіў у сілу».

Вядома, што Шэйман любіць беларускую мову, хоць ніколі пры Лукашэнку не дазволіў сабе выступіць на ёй публічна.

Шэйман уваходзіў у нацыянальнае Згуртаванне беларускіх вайскоўцаў, якое ўзначальваў Статкевіч. Аднак у 1994 годзе ён стаў рухавіком кампаніі Аляксандра Лукашэнкі і верна яму служыў усе гады ягонага прэзідэнцтва.

Аляксандр Фядута ў свой час напісаў, што Шэйман мяняе пасады, але не мяняе ўплыву. На якую б пасаду ён ні прыйшоў, яна становіцца ўплывовай. Бо ягоны кантакт з Лукашэнкам на любой пасадзе застаецца вельмі цесным. Самы верны паплечнік.

Мікола Бугай

# На дзень народзінаў да Севярынца прыехалі 30 гасцей


АКСАНА РУДОВІЧ

**Мангал паставілі** проста ў дворыку Паўлавай камендатуры.

30 снежня Паўлу Севярынцу споўнілася 36 гадоў. У пасёлак Куплін (Пружанскі раён) на дзень народзінаў да палітвязня прыехалі сябры і паплечнікі. Маладафронтаўцы падарылі палітыку смартфон — «Самсунг Гэлаксі С». Як жартавалі прысутныя, «С» — значыць Севярынец».

Паплечнікі з брэсцкай суполкі Хрысціянскай дэмакратыі прывезлі з сабой мангал і шашлык, які паставілі проста ў дворыку Паўлавай камендатуры. Блізкасць «хіміі» надавала святкаванню асаблівую пікантнасць. Выйшаў сапраўдны пікнік на прыродзе. Праўда, Павал трымае пост, таму смажанінай частаваліся госці.

Нягледзячы на холад, госці не раз'язджаліся. Калі сцямнела, мангал перарабілі ў вогнішча. Пад смех і жарты Павал «травіў байкі» са свайго жыцця. Падзеяй года ён назваў нядаўні шлюб Насты Палажанкі і Зьмітра Дашкевіча. А пра ўласнае вяселле сказаў толькі, што «ўсё будзе нечакана, як у Дашкевічаў».

**Аксана Рудовіч, Куплін**

# Бароўскі сышоў на пенсію

**Былы начальнік «Белнафтахіма»** і МАЗа адпраўлены ў адстаўку. Часовую?



Напярэдадні Новага года Аляксандр Лукашэнка прызначыў новых кіраўнікоў цэлага шэрага буйных прадпрыемстваў — МАЗа, МТЗ, «Віцязя», «Гомсельмаша».

Звяртае тут увагу замена гендырэктара на МАЗе. Замест Аляксандра Бароўскага галоўным стаў Віктар Асноўскі, колішні намеснік.

Аляксандр Бароўскі — «чалавек няпростага лёсу», як выказаўся Лукашэнка. Шмат гадоў ён адпрацаваў на заводзе «Белшына».

Бароўскі быў паважаны чалавек у родным Бабруйску. Ахвяраваў грошы на Праваслаўную царкву. Яго імя выбіта на двух храмах Бабруйска.

Праўда, у пачатку 2000-х Бароўскага кідаюць з шыннай вытворчасці ў нафтавую. Тры гады ён узначальвае «Палімір». А ў 2006 прызначаны дырэктарам канцэрна «Белнафтахім».

На новай пасадзе дырэктар пратрымаўся крыху больш за год. У маі 2007 яго арыштоўваюць за злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі. Хадзілі чуткі, што разам з Бароўскім быў таксама арыштаваны алігарх Чыж, але ў хуткім часе ён з'явіўся на экранах побач з Аляксандрам Лукашэнкам. Хаця факт арышту так ніхто афіцыйна і не абвергнуў.

Што датычыць самога Бароўскага, то яму суда пазбегнуць не ўдалося. Дырэктара абвінавачвалі, што ён закупляў нафту па адной цане, а прадаваў па больш высокай. У выніку Бароўскі атрымаў 5 гадоў зняволення. Праўда, без патрабавання выплаціць страты дзяржаве.

У зняволенні Бароўскі адбыў да снежня 2008. Год пабадзяўся без працы, а ў снежні 2009 Лукашэнка нечакана прызначае памілаванага Бароўскага дырэктарам МАЗа. Працаваў, відаць, добра, калі кіраўнік дзяржавы нават узнагародзіў Бароўскага ордэнам Пашаны.

Пазалетась Бароўскаму споўнілася 60 гадоў. Шмат хто думаў, што былому дырэктару прапануюць вышэйшую пасаду, аднак стала вядома, што пакуль ён проста сышоў на пенсію.

**Зміцер Панкавец**

# Аляксандр Вайтовіч: «Палітыкі няма, ёсць самаўладдзе»

5 студзеня **75-гадовы юбілей** адзначыў акадэмік-фізік, палітык Аляксандр Вайтовіч.

Ён нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Рачкевічы Капыльскага раёна. Скончыў фізфак БДУ (1960). Ад таго самага года Вайтовіч працаваў у Інстытуце фізікі Акадэміі навук. У 1997 годзе яго абралі прэзідэнтам Акадэміі навук.

«Працягваю займацца прафесійнай дзейнасцю, — кажа сп. Вайтовіч. — Атрымліваю асалоду ад гэтага. Дзякую лёсу, што маю такую магчымасць».

«Штодня хаджу ў Акадэмію навук на працу. Загадваю невялікай лабараторыяй пры Інстытуце малекулярнай і атамнай фізікі, той самай, якой загадваў калісь. Нас, праўда, мала засталося, шмат хто з'ехаў за мяжу».

У 2000 па прапанове Лукашэнкі Аляксандр Вайтовіч стаў спікерам савета рэспублікі, на гэтай пасадзе ён адбыў тры гады. Пасля перайшоў у апазіцыю да ўлады. У 2006 спрабаваў удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах, але не здолеў сабраць неабходнай колькасці подпісаў.

«Век ужо не той, — кажа Аляксандр Паўлавіч, — каб дзесьці бегаць, палітыкай займацца. Ды і я пагляздеў, што безвынікова гэта. Можа, я больш карысці прынясу сваёй асноўнай працай, а не палітычнай дзейнасцю. Бо і палітыкі няма, ёсць толькі самаўладдзе».

На пытанне пра здароўе Аляксандр Вайтовіч адказвае: «Па пашпарце (смяецца). Хацелася б, каб было лепш».

**ЗП**

# Галоўнага ідэолага ДФР звольнілі за Green Card?

Галоўны ідэолаг Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю (КДК) Генадзь Прахарцоў звольнены з пасады. Гэтую інфармацыю пацвердзілі ў прэсслужбе КДК. Афіцыйная матывацыя звальнення — «паводле ўзгаднення бакоў».

Паводле неафіцыйнай інфармацыі, прычынай звальнення стала тое, што ў кватэры Прахарцова быў знойдзены дазвол на жыхарства ў ЗША Green Card. Знайшлі яго супрацоўнікі КДБ у часеператрусу.

Як паведаміла Tut.by інфармаваная крыніца, спачатку спецслужбы заўважылі наведванне ім пасольства ЗША ў Мінску, што і стала падставай дляператрусу. «Прахарцова шмат хто ведаў менавіта як непрыяцеля ЗША і Захаду, таму наяўнасці ў яго Green Card у КДК з прыкрасцю здзівіліся», — дадае суразмоўца.

Дзе цяпер знаходзіцца Прахарцоў, невядома. У Камітэце дзяржаўнай бяспекі не сталі каментаваць гэтую інфармацыю.

Генадзь Прахарцоў займаў пасаду начальніка ўправы ідэалагічнай і кадравай работы ДФР. Нядаўна — 2 кастрычніка — ён атрымаў ад Аляксандра Лукашэнкі медаль «За бездакорную службу» I ступені.

Варта адзначыць, што ніякай заканадаўчай нормы, якая б забараняла чыноўнікам атрымліваць дазвол на жыхарства ў іншай краіне, няма.

«Галоўны ідэолаг», «намеснік па ідэалагічнай працы» ў лукашэнкаўскай сістэме — гэта пасада, створаная для нагляду за супрацоўнікамі і індактрынацыі. Ідэолагі праводзяць афіцыйны курс і арганізоўваюць рознага роду «выбары», а таксама сочаць за «нядобранадзейнымі» кадрамі.

**МБ; інф. Tut.by**

Фотафакт



## Аўтуховічу — 50

7 студзеня, на Каляды, палітвязень Мікалай Аўтуховіч адзначыў паўвекавы юбілей.

Аўтуховіч ад лютага 2009 адбывае пяцігадовае зняволенне за захоўванне дома пяці баявых патронаў. Хаця спачатку яго абвінавачвалі ў падрыхтоўцы тэракта. Міжнародныя арганізацыі прызналі яго вязнем сумлення.

У Ваўкавыску Аўтуховіч быў моцным рэгіянальным лідарам. Ён валодаў фірмай таксі. Збіраў кампрамат на чыноўнікаў. На парламенцкіх выбарах 2004 незалежныя экзіт-полы давалі яму перамогу.

Пісаць лісты Аўтуховічу можна на адрас: 230023, вуліца Кірава, 1, Гродна, турма № 1, ці даць тэлеграму, патэлефанаваўшы з гарадскога тэлефона на № 166.

# Што падаражэла з 1 студзеня?

Праезд, сувязь, ЖКГ, цыгарэты, паслугі…

З пачатку года беларус, які працуе поўны працоўны дзень, не можа зарабляць меней за 1 395 000 рублёў. Гэта каля $160. Раней мінімальны заробак складаў 1 109 120 рублёў.

Да 1 студзеня беларускія ўлады прымеркавалі шэраг падаражанняў. Логіка простая — летась інфляцыю «ўціскалі» ў строгі план. Як толькі каляндарны год скончыўся, цэны можна адпусціць.

**Мабільная сувязь і інтэрнэт — 20-32%**

Аператары мабільнай сувязі і правайдары прыкрыліся зменамі ў падатковы кодэкс, згодна з якімі паслугі сувязі цяпер абкладаюцца падаткам на дададзеную вартасць. І хоць эксперты даводзілі, што гэты падатак часткова і так быў уключаны ў тарыфы, аператары вырашылі, што беларусам давядзецца плаціць на 20% больш.

Абаненты МТС і Velcom, якія куплялі тэлефон у растэрміноўку, будуць рабіць тыя ж штомесячныя выплаты. А вось па справаздачнасці Life:) гэтыя плацяжы ідуць за аплату паслуг сувязі, таму тэлефоны турэцкай кампаніі падаражэлі на 20%, у тым ліку і набытыя ў растэрміноўку.

А Белтэлекам з 18 студзеня вырашыў павялічыць тарыфы на інтэрнэт «Байфлай» і тэлебачанне «Зала» яшчэ на 10%.

**Чыгунка — 17%**

Праезд цягнікамі падаражэў праз некалькі дзён пасля Новага года. Пастанова Міністэрства эканомікі павялічыла тарыфы на 17%, аднак усё адно не выправіла дыспрапорцыі ў транспартнай сферы. Напрыклад, праезд на аўтобусе з Мінска да Гродна каштуе 85—100 тысяч рублёў. На чыгунцы ж за такое падарожжа давядзецца аддаць ад 20 тысяч за сядзячае месца да 45 тысяч за купэ.

**Цыгарэты — 6—58%**

Цэны падняла і гродзенская фабрыка «Нёман», і мінская «Тытунь-Інвест». Напрыклад, цыгарэты «Фэст» падаражэлі з 3 000 рублёў да 4 700 рублёў.

Прычынай стала рэзкае павелічэнне ставак акцызаў да расійскага ўзроўню — у 1,5—3,5 разу. Выраслі і іншыя акцызы. Напрыклад, акцызы на бензін і дызель — на 20%, на алкаголь — на 12—62%. Гэта не прывяло да аўтаматычнага падаражання тавару, дадатковыя страты пакуль што лягуць на плечы вытворцаў. Аднак гэта толькі часова: цэны непазбежна вырастуць. Па гарэлцы гэта ўжо заўважна.




Мінімальны заробак — 1 395 000 рублёў

**Камунальныя паслугі — 5—10%**

Павялічваць камунальныя плацяжы — гэта патрабаванне Расіі. У адваротным выпадку Беларусь можа застацца без чарговых $440 мільёнаў так патрэбнай пазыкі.

Найбольш адчувальным будзе падаражанне электрычнасці на 9,5% і гарачай вады з ацяпленнем на 5%. Па падліках спецыялістаў міністэрства, у выніку квартплата за двухпакаёўку павялічыцца прыкладна на 10 тысяч рублёў.

**Тарыфная стаўка — 6,7%**

У якасці «кампенсацыі» дзяржава павялічвае зарплату бюджэтнікам. Тарыфная стаўка першага разраду, ад якой і залежыць заробак, вырасла на 6,7%, да 240 тысяч рублёў.

А вось пенсіянеры павелічэння дапамогі не дачакаліся. Прычым яна не павялічыцца і ў лютым. На выплату пенсій з бюджэту і так штомесяц выдаткоўваецца $550 мільёнаў.

Ягор Марціновіч

# Індыйскія хакеры абвесцілі дэвальвацыю ў Беларусі

КДБ заявіў, што знайшоў вінаватых у рассылцы **правакацыйных смс-паведамленняў.**

«Ермакова толькі што падпісала, ужо адправілі па абласных і на «Беларусбанк». З 8 студзеня даляр 14 340, еўра 18 116. Тэрмінова здымай грошы і едзь па абменніках». Смс-паведамленне з такім зместам многія абаненты мабільных аператараў МТС і Velcom атрымалі раніцай 4 студзеня. У нумары адпраўляльніка быў пазначаны адзін з тэлефонаў Нацбанка. Праўда, нумар быў гарадскім, з такога смс-ку адправіць цяжка. На падазрэнні наводзіў і нібыта новы курс еўра — 18 116 рублёў. Афіцыйны ж курс еўра заўсёды сканчваецца на «0».

Прыкол так і застаўся б прыколам, калі б да яго абвяржэння апантана не падключыліся дзяржаўныя структуры. «Гэтая інфармацыя — адкрытае трызненне і правакацыя, — заявіў прэс-сакратар Нацбанка Аляксандр Цімашэнка. — Гэта было б смешна, калі б не было так падурному. Ніхто не адмяняў устаноўленых правілаў курсаўтварэння».

КДБ тым часам правёў расследаванне і вызначыў асобы тых, хто рассылаў паведамленні. У справе смс-ак знайшлі індыйскі след. «Папярэдне ўстаноўлена, што рассылкі ажыццяўляліся праз сервер, які знаходзіцца на тэрыторыі Індыі, — адзначаецца ў паведамленні КДБ. — Аб прыналежнасці злачынцаў да замежнай дзяржавы сведчыць іх некампетэнтнасць, паколькі ў паведамленнях указаны сумы ў нацыянальнай валюце, якія ў Беларусі не знаходзяцца ў абарачэнні (18 116 рублёў)».

Праграмы для рассылкі смс-ак знаходзяцца ў інтэрнэце ў свабодным доступе. Некаторыя з іх цалкам бясплатныя, некаторыя патрабуюць аплаты. Пры гэтым у якасці нумара адпраўляльніка можна ўказаць адвольны нумар ці нават слова. Такія сэрвісы часта выкарыстоўваюць аматары розыгрышаў.

Усе кропкі над «і» Нацбанк расставіў 8 студзеня, калі абвесціў новыя курсы валют. Дэвальвацыі не адбылося. Даляр каштуе 8610 рублёў.

ЯМ


+375173060002:
Sergey,Ermakova tolko chto podpisala,ughe otpravili po oblastnim i na Belarusbank. S 08.01.13 dollar 14340, euro 18116. Srochno snimay dengi i ed po obmennikam
Получено: 11:04

## Як беларусы могуць скарыстаць Tax free для замежнікаў?

Дастаткова з'ездзіць з «Гарызонтам» **праз мяжу і назад.**

З пачатку года ў Беларусі запрацавала сістэма Tax free — вяртання падатку замежнікам, якія набылі тавар у беларускай краме. Патрэбныя ўмовы — сума куплі павінна перавышаць 800 тысяч рублёў. Замежнік афармляе ў краме спецыяльныя паперы, якія, разам з нераспакаваным таварам, трэба будзе паказаць на мяжы. Пасля гэтага можна вярнуць пэўны працэнт ад сумы куплі (каля 12%).

Такая эканомія дасягаецца за кошт таго, што замежнікі вызваляюцца ад сплаты падатку на дададзеную вартасць, які складае ў Беларусі 20%. Частку гэтай сумы забірае сабе кампанія-аператар. Па падобных правілах сістэма Tax free існуе ў большасці еўрапейскіх краін.

Праўда, пакуль што схема працуе толькі на паперы. Па-першае, дагэтуль не абраная кампанія, якая будзе абслугоўваць замежнікаў і вяртаць ім грошы за пэўную камісію. Па-другое, беларускія крамы не атрымалі патрэбнай дакументацыі. Замежнікі, якія набудуць тавару на патрэбную суму, не змогуць атрымаць пацверджанне гэтага.

Сістэма распаўсюджваецца на грамадзянаў усіх краін, апроч Расіі, Казахстана і Беларусі. Аднак ці могуць нашы суайчыннікі атрымаць ад яе карысць? Так, калі маюць знаёмых жыхароў у суседніх краінах — Польшчы, Украіне, Літве, Латвіі. Тады купля, напрыклад, тэлевізара «Гарызонт», афармляецца на замежніка, які на мяжы вяртае каля 12% ад цаны. Пасля гэтага тэлевізар вяртаецца ў Беларусь. Калі яго вага не перавышае 35 кг, увезці яго можна бязмытава. Схема можа быць выгаднай жыхарам прымежных населеных пунктаў — Брэста, Пінска, Гродна, Ашмянаў.

ЯМ

З 1 студзеня года Літва вяртае Tax Free ў тым ліку і за набытыя прадукты, калі вы купляеце прысмакаў на суму больш за 200 літаў (гэта каля 650 тысяч). Алкаголь і тытунь пад гэтыя правілы не падпадаюць. У Польшчы вяртаць грошы за прадукты і алкаголь можна было ўжо даўно.

## Сцісла

**Збанкрутаваў інтэрнэт-гіпермаркет DoDivana**

Крама дазваляла мінчукам замаўляць у інтэрнэце прадукты і прывозіла іх дадому. Дастаўка раптоўна перастала працаваць у апошнія дні снежня, прычым кліентам не прывезлі ўжо аплачаны тавар. Тэлефонныя нумары крамы не адказваюць, уладальнікаў сэрвісу шукае міліцыя.

**Добрушская папяровая фабрыка працавала ў пустэчу**

Камітэт дзяржкантролю высветліў, што ў Добрушы папяровая фабрыка катастрафічна неэфектыўная. У красавіку 2011 года запрацавала нямецкая аўтаматычная лінія для вытворчасці і ўпакоўкі офіснай паперы Bielomatik коштам 596 тысяч еўра. Замест планаваных 400 тысяч пачкаў штомесяц выпускалася толькі 11,3 тысячы пачкаў, аднак не прадаваліся і яны — занадта дарагія выходзілі.

**Антырэкорд года: за лістапад праелі $623 млн**

Паводле звестак Белстата, сальда замежнага гандлю таварамі ў лістападзе склала рэкордныя мінус $623 мільёны. Ад дасягненняў першай паловы 2012, дасягнутых за кошт экспарту растваральнікаў, на 1 снежня засталіся ўсяго $272 мільёны. Іх, імаверна, страцілі за снежань.

**На трэцяй лініі мінскага метро не будзе машыністаў**

Трэцяя лінія мінскага метро праектуецца як аўтаматызаваны метрапалітэн. Яго магчымасці дазволяць цягнікам пры неабходнасці рухацца без машыніста. Усе сістэмы кіравання будуць сканцэнтраваны ў адзіным дыспетчарскім пункце інжынернага корпуса і ў дзяжурнай па станцыі. Мяркуецца, што першыя станцыі запрацуюць у 2017 годзе.

ЯМ

# Клінковы сыр пад пагрозай знікнення

Чаму малаказаводы адмаўляюцца рабіць **самы беларускі гатунак сыру**?

Беларуская сыраварная прамысловасць асвоіла шмат гатункаў сыроў, і на выбар нельга паскардзіцца: на вітрынах ляжаць і «Ракфорці» з цвіллю, і адыгейскі, і сулугуні, і нават вар'яцкі белазялёны «камуфляжны» сыр пад назвай «Вайсковы». Але ў Беларусі выраблююць сыр, які існаваў доўгія стагоддзі да «экспансіі» заходнееўрапейскіх сычужных сыроў, з'яўляецца сапраўднай кулінарнай і культурнай спадчынай, сёння незаслужана забытай. Гаворка ідзе пра клінковы сыр.



**Сярэдняя цана кілаграма клінковага сыру — 35 тысяч рублёў**

**Яшчэ рэцэпты ад Паўла Мятліцкага**

**Бурачны салат з сырам**

Вараныя буракі (1 кг) надраць на буйной тарцы, заправіць алеем (4-5 ст.л.), соллю (2 ч.л.), невялічкай колькасцю часнаку (2 зуб.), бальзамічным воцатам (2 ст.л.) і сокам адной чвэрці лімона. Дадаць адзін пук дробна нарэзанай пятрушкі. Выкласці на талерку горкай і зверху рукамі намяць сыр.

**«Рэзкі збанок»**

Нарэзаны кубікамі і абсмажаны баклажан, цыбулю, салодкі перац, памідор, шампіньёны і сыр заправіць часнаком, чорным перцам і базілікам. Выкласці слаямі ў збанок і запякаць каля 10 хвілін. Падпечаны сыр набывае цудоўную скарынку, застаючыся мяккім усярэдзіне, і выдатна адцяняе смак гароднiны.

### Крыху гісторыі

Гісторыю айчыннага сыраварства апісаў даследчык беларускай кухні Алесь Белы. Варта зазначыць, што сваю назву «клінковы» сыр атрымаў ад характэрнай клінападобнай формы і што гэта адзіны сыр, які быў шырока вядомы ў нашай краіне аж да сярэдзіны XIX стагоддзя. Для вытворчасці клінковага сыру патрэбна толькі малако. Сыры, уласна, і пачалі рабіць калісьці, бо іншага спосабу захаваць на доўгі тэрмін малако не было. Традыцыі прыгатавання клінковага сыру захоўваюцца ў беларускай вёсцы і сёння: сам з дзяцінства памятаю марлевыя кулёчкі з будучым клінковым сырам, што віселі ў хаце бабулі.

### Плюсы і плюсы

Як вялікі аматар сыру, скажу, што, на жаль, мала якія беларускія сычужныя сыры назавеш смачнымі. Больш за тое, смакавых адрозненняў у розных гатунках адной цэнавай катэгорыі амаль што не існуе. Танны сычужны сыр падыходзіць бадай што для тэрмічнай апрацоўкі: падсмажаны ці расплаўлены, ён значна «выйграе». Калі хочацца проста адрэзаць кавалак і з'есці, лепш узяць сыр даражэйшы.

> «Ва ўсіх савецкіх даведніках па гастраноміі пісалася, што радзімай клінковага сыру з'яўляецца Беларусь. Але па вялікім рахунку традыцыі сыраробства з тварагу — агульныя для беларусаў, палякаў і літоўцаў». **Алесь Белы**

Клінковы сыр на іх фоне выглядае вельмі прывабным прадуктам: ён танны (каля 35 тысячаў за кілаграм), нятлусты (утрыманне тлушчу — 30%) і без ніякіх плавіцеляў, таму з'яўляецца выдатным прадуктам дыетычнага харчавання. Яшчэ адной несумненнай добрай якасцю клінковага сыру ёсць яго досыць нейтральны смак, які можна зрабіць разнастайным з дапамогай шматлікіх дадаткаў, а таксама тое, што клінковы сыр добра ўбірае іншыя смакі, таму спосабаў ужывання яго — безліч.

### Нацыянальная страва ў занядбанні

У многіх нацыяў ёсць свае традыцыйныя сыры, якія з'яўляюцца важнымі «слупамі» нацыянальных кухняў. У грэкаў — фетакі, у японцаў — соевы тофу, на Каўказе — расольныя сыры (напрыклад, сулугуні), у Заходняй Еўропе — знакамітыя сычужныя. У Літве, нацыянальная кухня якой амаль супадае з традыцыйнай беларускай, бо прыродныя ўмовы і традыцыі сельскай гаспадаркі аднолькавыя, той самы клінковы сыр стаў сапраўдным нацыянальным брэндам: можна знайсці і салёны, і салодкі, і вэнджаны, і сушаны, і з кменам, і з зелянінай... Завецца ж ён у Літве проста «літоўскі сыр».

На жаль, у Беларусі, як і многія іншыя ўласныя традыцыі, клінковы сыр значна «здаў» свае пазіцыі. Яшчэ ў савецкі час ён ляжаў у кожнай краме. А цяпер знайсці клінковы сыр нават на Камароўскім рынку — праблема. Яго там прадаюць у дзвюх-трох крамках, хоць, па прызнанні прадавачкі, клінковы сыр «разбіраюць добра». У той самы час адыгейскі сыр, сулугуні ці «беларускі ракфор» можна набыць амаль у кожнай.

«Папулярнасць клінковага сыру падае, — прызнае Алесь Белы, — і гэта з'ява літаральна трох апошніх гадоў. На маю думку, тут ёсць і эканамічныя, і культурныя чыннікі. Папершае, іншыя прадукты, як ёгурты ці тварог, з'яўляюцца моцнымі канкурэнтамі клінковага сыру. Па-другое, кошт на гэты прадукт завышаны, і эканамічна больш выгадна купіць нейкі сычужны сыр, бо яго можна нарэзаць танчэйшымі скрылямі, каб, напрыклад, пакласці на бутэрброд. А з дзесяці бутэрбродаў выходзіць істотная эканомія», — кажа Алесь Белы.

«Ёсць і культурны аспект, бо ў беларусаў няма механізмаў трансляцыі культуры. Не той, афіцыйнай, а народнай. Неразвітасць нацыянальнай кухні, падмацаванай фармальнымі рытуаламі, «забівае прадукт». Каб адрадзіць клінковы сыр, трэба, каб яго прасоўвалі менавіта як беларускі прадукт. Тады б яго куплялі, тады б ён мог стаць і прадуктам для турыстаў. Шкада, калі мы страцім клінковы сыр. Гэта ж яшчэ і гістарычны прадукт, які прайшоў скрозь стагоддзі», — падсумаваў Белы.

### Попыт нараджае прапанову

У сецівe набыць клінковы сыр прапануюць Лідскі малочнакансервавы камбінат, Мінскі гармалзавод №2, Капыльскі і Шчучынскі масласырзаводы, Слуцкі малаказавод і Аршанскі малочны камбінат. Але на сайце апошняга пазначана, што вытворчасць клінковага сыру часова спынена. У аддзеле маркетынгу і продажаў «НН» патлумачылі, што клінковы сыр не выбраляюць ужо даўно, бо «перакідваюць магутнасці на больш запатрабаваныя прадукты», і параілі купляць адыгейскі сыр — ён, маўляў, амаль ідэнтычны беларускаму клінковаму. Напрыканцы ж гутаркі супрацоўніца і ўвогуле прызналася, што робяць толькі тое і ў такіх аб'ёмах, якія «спускаюць» зверху.

Лідскі малаказавод клінковы сыр выбраляе, ды яшчэ трох гатункаў: падсолены, з кменам і з зелянінай. Тут «НН» паведамілі, што вытворчасць сыру залежыць ад попыту гандлёвых сетак, які для лідскага завода складае 80 тон на год. Пагадзіцеся, няшмат для нацыянальнага прадукту. На пытанне, ці спрабавалі прасоўваць клінковы сыр як адвечны беларускі прадукт, у Лідзе адказалі: «Раней мы выраблялі толькі адзін гатунак, а цяпер ужо тры. Тры гатункі — нямала для аднаго віда сыру». Больш маштабных планаў на клінковы сыр малаказавод у Лідзе не мае.

### Захацелася сыру? Зрабі сам!

Калі раптам захацелася пакаштаваць клінковага сыру, можна зрабіць яго і дома. Для гэтага трэба адстаяць сыракваш пры хатняй тэмпературы недзе 12 гадзінаў, пасля гэтага паставіць скіслае малако ў цёплае месца. Раней гэта рабілі ў печы, але падыдзе і цёплая духоўка, і нават радыятар ацяплення. Пасля таго як маса стане шчыльнай, трэба перакласці яе ў марлевы «клін» — загадзя сшыты конус, адціснуць і пакінуць сцякацца. Калі ўся сыроватка сцячэ, клін кладуць пад 5-7-кілаграмовы прэс і пакідаюць на 6-8 гадзін. Пасля гэтага сыр тройчы соляць, з інтэрвалам у палову дня. У сыр можна дадаць кмен, зеляніну. Можна не саліць клінковы сыр, а наадварот зрабіць яго салодкім і дадаць у яго рэзаны мармелад.

### Клінковы сыр: як і з чым яго ядуць

Раней клінковы сыр сушылі, а потым сухім грызлі ці дадавалі ў стравы. Сушаным можна было захоўваць яго доўгі час. Сёння праз наяўнасць лядоўняў у гэтым няма патрэбы, а сушаны клінковы сыр можа быць хутчэй экзотыкай, стравай фестываляў старажытнай культуры.

Свежы клінковы сыр можна ўжываць як самастойную страву, можна рабіць з ім бутэрброды ці салату, есці з мёдам, цукрам, соллю. Клінковы сыр «сябруе» і з тэрмічнай апрацоўкай: яго можна падсмажыць на алеі ці ў кляры, запячы ў духоўцы ці на грылі.

Каб клінковы сыр быў не вельмі сухі, лепш есці яго з якімнебудзь соусам. «Як і да ўсіх тварожных сыроў, да клінковага сыру выдатна пасуе журавінавы сіроп ці сочыва», — кажа кухар рэстарана «Камяніца» Павал Мятліцкі. А калі не хочацца салодкага, можна зрабіць да сыру сатэ: парэзаныя баклажаны, памідоры і моркву трэба пасіраваць і прыправіць часнаком і базілікам».

Смачна есці!

**Кірыла Хілько**

Рыгор Крушына.

**Хатні сыр**

Край малочны. Дабрыня!
Еў сыры я ў Амстэрдаме.
Хатні сыр ім не раўня,
А яго хацеў бы я...
Мы даўней рабілі самі.
У гліняных гладышох
Малако за дзень скісала.
А пад бэлькай у клінкох
Сыр бурштынам цвёрдым сох,
Ён не кроіўся, як сала.
Сыр крышылі секачом
На кавалкі, на драбочкі.
Той, галандскі, на вачох
Нарадзіўся гальшом, —
Гэты выняты з сарочкі,
З палатнянага клінка.
Ён крыху саланаваты.
Клапатлівая рука
Прыкладала да сырка
Смак прыемны роднай хаты.
Што за сыр! Грызі грызьма!
Тут, шкада, яго няма.

1974

# Вось такое «Еўрабачанне»



20-гадоваму Ягору Ваўчку зламалі нос, выбілі зубы, збілі да непрытомнасці.

Праз аперацыю ён **прапусціў першы экзамен** ва ўніверсітэце.

20-гадовы Ягор Ваўчок — не звычайны студэнт. У 2004 Ягор рэпрэзэнтаваў Беларусь на дзіцячым «Еўрабачанні» ў Нарвегіі. Ён заняў 14-е месца з беларускамоўнай песняй «Спявайце са мною». Цяпер ён студэнт. Вучыцца на эканаміста ў БДУ. І працягвае спяваць. Летась спрабаваў трапіць на дарослае «Еўрабачанне», але не прабіўся. А цяпер удзельнічае ў запісе другога сезона музычнага шоу «Акадэмія талентаў» на АНТ.

Але падзея не ў гэтым.

Яго па-зверску збілі ў ягоным жа родным Мазыры, на Новы год. Малады чалавек з сябрамі адпачываў у забаўляльным цэнтры. Бліжэй пад раніцу на вуліцы паміж гэтым клубам і суседнім пачалася бойка. Дасталося і Ягору: ад моцнага ўдару ён страціў прытомнасць. Быццам бы білі яго і ляжачым, прычым нагамі.

У яго зламаны нос — давялося рабіць аперацыю. Сколатыя два зубы, падбітае вока, рассечаная губа. У выніку Ягор прапусціў першы экзамен ва ўніверсітэце.

Бойка была лютая: толькі пацярпелых у ёй — сямёра. Відэакамеры на ўваходах у клубы зафіксавалі патасоўку дакладна. Цяпер міліцыянты разбіраюцца, хто пачаў і хто вінаваты.

**Кастусь Матушыч**

## Кіраўнік Полацкага выканкама напісаў прашэнне аб памілаванні

А крымінальную справу кіраўніка Гомеля **забралі ў сталіцу**.

Летась арыштавалі некалькіх кіраўнікоў гарадскіх адміністрацый. Кагосьці пачалі судзіць. Хто чакае сваёй чаргі. А некага апраўдалі і вызвалілі.

Яшчэ 18 чэрвеня справа экс-мэра Полацка Уладзіміра Тачылы была накіраваная ў Генпракуратуру для перадачы ў суд. Але і да сёння працэс не пачаўся. Як паведаміў начальнік аддзела інфармацыі і сувязяў з грамадскасцю Генпракуратуры Пятро Кісялёў, Уладзімір Тачыла напісаў прашэнне аб памілаванні на імя кіраўніка краіны. І зараз слова за Аляксандрам Лукашэнкам.

Вінавацяць чыноўніка ў тым, што ў 2009 незаконна выдзеліў для сябе і сваіх блізкіх зямельныя ўчасткі ў Полацку ў зоне ахоўванага ландшафту, на тэрыторыі, прылеглай да Спаса-Еўфрасіннеўскага жаночага манастыра. Пры гэтым былі перавышаны службовыя паўнамоцтвы, а гісторыка-культурная каштоўнасць пашкоджана. Ра-зам з Тачылам па гэтай справе праходзяць яго колішні намеснік Сяргей Куксаў, экс-старшыня Полацкага райвыканкама Валер Палідавец са сваім намеснікам Алегам Ермаковічам. Яшчэ падчас следства шкода ад незаконнай дзейнасці была пакрытая ў поўным аб'ёме.



Дом экс-мэра Гомеля апусцеў яшчэ да арышту гаспадара.

### Справу закрылі, але працу страціў

Справа экс-першага намесніка кіраўніка Узды Міхаіла Крукоўскага не была ў ліку гучных. Яго падазравалі ў крадзяжы будаўнічых матэрыялаў сумесна з кіраўніком аднаго камунальнага прадпрыемства. Сума, якая фігуравала, была нікчэмнай — 800 тысяч рублёў. У выніку крымінальны пераслед у адносінах да Крукоўскага спынілі. Праўда, не ўдакладняецца, на якой канкрэтна падставе — п.2. ч.2 арт.29 КПК. А гэта прадугледжвае або амністыю, або сканчэнне тэрміну даўніны. Але чыноўніцкага крэсла ў райвыканкаме ўжо не вернеш — на яго месца прыйшоў Міхаіл Беразоўскі.



ДАША САПРАНЕЦКАЯ

Уладзімір Тачыла чакае літасці Лукашэнкі.

А справу экс-мэра Гомеля Віктара Піліпца забралі ў сталіцу. У прэс-службе Следчага камітэта паведамілі, што ніякай дадатковай інфармацыі не будуць даваць да завяршэння расследавання. Удакладнілі толькі, што мера стрымання для Піліпца не змянялася — знаходзіцца пад вартай. Яго затрымалі пасля таго, як ён сышоў з пасады мэра. Затрымалі ў межах расследавання крымінальнай справы ў адносінах да службовых асобаў упраўлення капітальнага будаўніцтва Гомельскага гарвыканкама. «За 20 тысяч куплялі кватэры ў дзяржавы, а за 50 перапрадавалі, а грошы — у кішэню», — сказаў тады Лукашэнка пра справу гомельскіх чыноўнікаў.

Пасаду Піліпца заняў Пятро Кірычэнка.

### Вінаваты ці невінаваты?

А былога першага намесніка старшыні Мінскага гарвыканкама Ігара Васільева пачалі судзіць у снежні. Яго вінавацяць у выманьванні хабару ў 500 тысяч даляраў ад чэшскіх інвестараў. Перадача паловы ад гэтай сумы адбывалася пад наглядам КДБ: з «жучкамі» і схаванымі камерамі.

У Камітэт дзяржбяспекі звярнуўся Васіль Ананьеў. Ён павінен быў перадаць хабар ад замежных бізнэсоўцаў мінскаму чыноўніку. А ён замест гэтага чыстасардэчна напісаў пра ўсё тагачаснаму старшыні КДБ Вадзіму Зайцаву. На судзе Ананьеў сцвярджаў, што Васільеў ад пачатку працы з чэхамі (канец 2010) адкрыта вымагаў хабар. Адметна, што Ананьеў маўчаў паўтара года. А расказаць пра нячэснага чыноўніка вырашыў на трэці дзень пасля таго, як сам трапіў у СІЗА.

Ананьеў падазраецца ў тым, што схіляў мінчанку да перадачы $50 тысяч нявысветленаму супрацоўніку КДБ нібыта за тое, каб не прыцягнулі да адказнасці яе сына. Сам патлумачыў па-іншаму: дапамагаў жанчыне вярнуць грошы, якія ў яе пазычылі.

Іншы сведка, Ігар Смятанін, на судзе выказаў адваротную версію. Ён заявіў, што тыя 500 тысяч даляраў — гэта сума ўзнагароджвання для яго і Ананьева за дапамогу ў рэалізацыі чэшскага інвестыцыйнага праекта. А калі чэхі пачалі марудзіць з выплатай, сталі прыкрывацца Васільевым — маўляў, грошы патрэбныя для высокага чыноўніка. Смятанін грошай не атрымаў, а хутка яго адхілі ад праекта.

Пакуль працэс пераведзены ў закрыты рэжым — заслухваецца сакрэтная інфармацыя з КДБ. А хутка суддзі Аляхновіч давядзецца прымаць рашэнне: вінаваты ці не экс-чыноўнік.

**Сяргей Макарэвіч**

### Фотафакт



Знік 48-гадовы мінчук Сяргей Анатольевіч Грабароў. 20 снежня ён пайшоў на працу, але так і не з'явіўся там. Не вярнуўся і дадому.

Прыкметы: на выгляд 45—50 гадоў, рост 175—180 см, хударлявы, вочы зялёныя, валасы цёмныя з сівізной.

Быў апрануты: цёмнае шэрае паліто, чорныя чаравікі, чорныя вельветавыя штаны, чорны шалік.

Хто бачыў мужчыну з фота, просьба затэлефанаваць (029) 163-65-12, (033) 666-68-56, (044) 562-71-14.

## Загадкавае самагубства ў БНТУ

Дзяўчына **выскачыла з балкона** студэнцкага інтэрната.

Студэнтка 4-га курса Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта зрабіла сабе смерць. Шанцаў выжыць не было: яна выкінулася з 12-га паверха інтэрната №4. Дзяўчына вучылася на факультэце тэхналогіі арганічных рэчываў. Свой апошні крок яна зрабіла апоўдні 4 студзеня.

Прычыны самагубства вызначыць следства. Людзі гавораць аб праблемах на вучобе. Але знаёмая Насты аспрэчвае гэта. «Дзяўчына была адной з найлепшых на сваёй спецыяльнасці! За чатыры гады ў яе не было ніводнай пераздачы! Нармальна з дому вярнулася перад першым экзаменам, на кансультацыю схадзіла...»

Наста нарадзілася ў Салігорску. Праз месяц, 3 лютага, яна святкавала б свой 21-ы дзень нараджэння.

«У яе не было праблем ні ў інтэрнаце, ні з сяброўкамі. Напярэдадні смерці яна абмяркоўвала, як будзе адзначаць свой дзень нараджэння. Што здарылася, што здарылася? Не магу зразумець», — бядуе сяброўка.

**СМ**

### Сцісла

**Дасвяткаваліся**

Кампанія адзначала трэці дзень Новага года ў Баранавічах. Паміж незнаёмымі хлопцамі ўзнікла спрэчка. Каб даказаць сваю праўду, адзін з іх схапіў нож. З двума нажавымі раненнямі ў грудзі другі хлопец памёр.

**Пад Столінам знікла і знайшлася школьніца**

14-гадовая Марыя Паказанцава з пасёлку Рэчыца Столінскага раёна пайшла гуляць каля 20-й вечара 31 снежня і знікла. Трывогі дадавала і тое, што менавіта на Століншчыне год таму ў навагоднюю ноч забілі 13-гадовую Юлію Ляшчук. На шчасце, Марыя жывая, яна знайшлася 8 студзеня ў падвале прыватнага дома вёскі Манькавічы, з такімі ж падлеткамі. Дзяўчына проста ўцякла з дому.

**У адным лесе загінуў 41 алень**

Мёртвых жывёл знайшлі ў вальеры паляўнічай дачы Камайск Докшыцкага раёна. Побач з тушамі аленяў выявілі сінія плямы. Праводзяцца вірусалагічныя, біялагічныя і хімічныя экспертызы, узятыя пробы корму. Аленяў у Докшыцах з цяжкасцямі развялі.

**Паваліўся нехта**

П'яны мінчук 3 студзеня апоўначы зваліўся на рэйкі ў метро на станцыі «Аўтазаводская». Не пацярпеў.

**Выпаў з балкона**

У навагоднюю ноч 17-гадовы хлопец па неасцярожнасці выпаў з балкона мінскага інтэрната. Ён вучыўся на другім курсе ў адным з каледжаў. Памёр на месцы нябога.

**Пажар на Каляды**

7 студзеня ў вёсцы Хатляны на Уздзеншчыне згарэў драўляны праваслаўны храм. Загарэлася ўначы. Прычыны высвятляюцца.

**КМ**

# Аляксандра Герасіменя: Эстэтычна мне бліжэйшы бел-чырвона-белы сцяг

На сайце «Прессбола» прайшла анлайн-канферэнцыя з плыўчыхай Аляксандрай Герасіменяй — чэмпіёнкай свету, двухразовай сярэбранай медалісткай Алімпійскіх гульняў-2012.

Сярод іншага, ёй было зададзена наступнае пытанне: які сцяг вам бліжэй — чырвона-зялёны ці бел-чырвона-белы? Аляксандра адказала наступнае: «З пункта гледжання эстэтыкі бел-чырвона-белы, вядома, больш сімпатычны. Ды і гісторыя ў яго куды больш багатая і насычаная — Вялікае Княства Літоўскае, Наваградак, Мір, Нясвіж. Шкада, вядома, што мы выпусцілі ініцыятыву і літоўцы лічаць сябе нашчадкамі той вялікай дзяржавы».




Адказваючы на пытанне пра геапалітычны вектар развіцця Беларусі, Герасіменя абрала Еўропу. «Мы адтуль ментальна. Расія няхай цягнецца за намі, ёй не пашкодзіць агульнапрынятыя каштоўнасці цывілізаванага свету», — перакананая чэмпіёнка.

Дарэчы, «Прессбол» прызнаў Аляксандру Герасіменю чалавекам 2012 года.

**АГ**

## Мікіту Курэпіна выклікалі ў дэканат, сказалі «так жыць нельга»

Гісторыя Мікіты Курэпіна, студэнта гістфака БДУ, які жыве на 400 тысяч рублёў у месяц, мае расійскае грамадзянства і размаўляе па-беларуску, хутка стала папулярнай у байнэце. «НН» зноў звязалася з Мікітам, каб даведацца, як яму жывецца пасля публікацыі артыкула.

«Калі казаць шчыра, то не чакаў такога рэзанансу, — кажа хлопец. — Я вельмі здзіўлены. Колькі людзей — столькі поглядаў. Хай пішуць на форумах, што хочуць. Я да ўсяго гэтага спакойна стаўлюся».

Мікіта расказвае, што на Новы год аднагрупніцы падаравалі «бананы і гарбату». А яшчэ маладзёна выклікалі ў дэканат ВНУ на тлумачальную гутарку: «Сказалі, што пра мяне чыталі, што так жыць нельга, трэба штосьці рабіць. Я ўважліва паслухаў, сказаў, што ўсё зразумеў. І ўсё».

Цяпер спадзяванні Курэпіна на павышэнне стыпендыі. Пакуль што ўсе іспыты ён здае добра — з першага разу.

**Кірыла Хілько**



**Фотафакт**




**Хачу быць як Леў Сапега і Напалеон Орда**

«Тэхнабанк» выпусціў адукацыйны каляндар. Банк не першы год падтрымлівае таленавітых школьнікаў. Сёлета каляндар выйшаў па-беларуску, а дзеці на ім кажуць, што хочуць дасягнуць такіх поспехаў, як Казімір Семяновіч, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Леў Сапега, Напалеон Орда, Павел Сухі.



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Апошняя кропка

Уладзімір Мацкевіч, самаабвешчаны лідар інтэлектуальнага, так бы мовіць, супраціву рэжыму, вызначыў, нарэшце, сваю пазіцыю па найвастрэйшым, падобным на гамлетаўскае, пытанні беларускай сучаснасці: жыд ці не жыд? І зрабіў гэта ў найбольш натуральнай для філосафа форме дыскусіі, выбраўшы ў якасці апанента нейкага Гену Варковіча. «Ты, Гена, — супакоіў Мацкевіч свайго нібыта суразмоўцу, — яшчэ тая морда, але нічога жыдоўскага ў цябе няма! Звычайны беларус яўрэйскай нацыянальнасці»...

Супакоены адсутнасцю ў сябе «жыдоўскай морды», выцягнуты на «БелПартызан» Гена, тым не менш, не супакоіўся: на працягу ўсёй дыскусіі настойліва, нібыта ад імя ўсёй яўрэйскай супольнасці, даказвае абразлівасць для яўрэяў ужывання ў беларускай мове слова «жыд». Адваротная думка Мацкевіча проста ўражвае сваёй інтэрнацыянальнай глыбінёй і празрыстасцю: няма чаго рускамоўнаму Гену з усёй ягонай супольнасцю ўсталёўваць у беларускай мове свае нормы. З чаго вынікае, што «жыд» па-беларуску — гэта жыд, а па-руску — «жидовская морда»...

Я не лінгвіст, каб спрачацца з Мацкевічам, і не Гена, якога Мацкевіч як нарадзіў, так і забіў, зразумела, «логікай, перад якой ні жыда, ні бульбаша... усе роўныя...» Далёка мне да Мацкевіча і з ягонымі ведамі гістарычных абставінаў, ад якіх узнікла ці добраўжыванае, ці злоўжыванае на працягу стагоддзяў слова з трох літараў. Але мне вельмі блізка да Косціка, нават праз 60 з гакам гадоў...

Косцік, сябра майго дзяцінства, быў першым на маёй памяці, хто не стаў высвятляць этымалогію слова «жыд», а наўпрост даў Няхаю ў морду, абцукраваную з густа пасыпанага цукрам тлустага бутэрброда.

Няхай быў старэйшы і дужэйшы за Косціка, і заўжды чырвоным, пляскатым, нібыта блін, тварам падобны на свайго бацьку, які служыў нейкім эмгэбэшным начальнікам і адзіны ва ўсім двары раскатваў на трафейным БМВ. Вядома, нас душыла зайздрасць, мы душылі яе і трымаліся ад Няхая як мага далей, бо менавіта ад яго сыходзіла спакуса зазнаць нешта недасягальнае ў параўнанні з іржавымі абручамі, што паганяліся загнутым у крук дротам. Аднойчы не вытрымалі, наблізіліся да аўто. Няхай стаяў, абапёршыся на бліскучае крыло, і дажоўваў бутэрброд. «А мой бацька быў на вайне адміралам», — з выклікам сказаў Косцік. «Хлусіш, — прашамкаў Няхай, — жыды адміраламі не бываюць...»

Праз імгненне рэшткі бутэрброда ляцелі з Няхаевага рота...

Паўстагоддзя лягло паміж Косцікам і Карасікам, на жаль, забыўся на яго імя. Хаця тапаграфічна яны сталіся зусім побач: як і мы з Косцікам, Карасік жыў у адным з чатырох дамоў

**Косцік не стаў высвятляць этымалогію слова «жыд», а проста даў Няхаю ў морду**

на Маскоўскай вуліцы, што перажылі акупацыю і вайну. Было, праўда, і адрозненне: наш дом перажыў акупацыю і вайну без нас, а Карасікаў дом — разам з Карасікам. Гэта высветлілася адразу, як толькі ён, цяжкі і нязграбны, ледзь увабраўся ў машыну і я выказаў меркаванне, што пасля вайны мы былі суседзямі. «Так, мусіць, былі, — адазваўся Карасік, — але я жыў у сваім доме яшчэ да вайны...» «А ў вайну?» — запытаўся я. «І ў вайну»...

Колькі хвілін ехалі моўчкі. «Вас цікавіць, як я застаўся жывы? Суседзі ўратавалі. Бацька загінуў на вайне, маці — у гета, а мяне схавалі суседзі...»

Мы ехалі на Карасікаву дачу, ён — прадаваць, я — купляць. Машыну кінулі недзе кіламетры за два, пасярод сумётаў па абодва бакі вузенькага прасёлка і непераадольнай слізгаты. Астатні шлях ішлі гадзіны паўтары — дзе коўзаючыся, дзе праваліваючыся ажно да пояса ў снег. Я ці не цягнуў Карасіка на сабе, што пры ягоным цяжары было амаль немагчыма. Ён цяжка дыхаў, потым з нейкім вінаватым адчаем сказаў: «Прабачце — сэрца, інфаркт...»

Таргавацца былы лётчык грамадзянскай авіяцыі не ўмеў. Амаль адразу ён зразумеў, што ні ягоны ладны домік, ні дагледжаныя, што было відаць нават пад снегам, соткі я купляць не буду. І раптам заплакаў: «Думаеце, я хачу прадаваць? Трыццаць гадоў... столькі працы... столькі жыцця... І ад'язджаць не хацеў. Але як убачыў на дзвярах кватэры намаляванае белай фарбай «ЖЫД», вырашыў: усё, кропка!»

...«Жыд» Карасік памёр у Амерыцы ці не праз год, у 97-м.

Больш за два гады няма і Косціка. Бацька яго, дарэчы, ніколі не быў ні «адміралам», ні «жыдам». Як і Косцік — будучы вядомы пісьменнік Кастусь Тарасаў...

А саматужнаму гуру, які не бачыць розніцы паміж нацызмам і сіянізмам (шукайце ў інтэрнэце «Безумное чаепитие. О патриотизме»), хачу нагадаць пра тыя ў нашай гісторыі абставіны, калі слова «жыд» было не словам, а хваробай. Смяротнай, нават літаральна, хваробай для людзей і грамадства.

Ці вылечана?

Вось пытанне замест таго, дзе, здавалася б, пастаўлена апошняя кропка.

*kamerton_41@mail.ru*

# Алег Трусаў: **Лупіце на трасянцы!**

Алег Трусаў **нястомна ўзначальвае** Таварыства беларускай мовы ўжо 13 гадоў. У гэтым чалавеку спалучаецца цвёрды характар і вера ў тое, што немагчымага няма.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Наша Ніва»:** Што рабіць, каб упусціць мову ў сваё жыццё?

**Алег Трусаў:** Размаўляць 25 гадзін у суткі па-беларуску. Трэба спаць і бачыць беларускамоўныя сны. І ўсё будзе добра.

**«НН»: А якім быў Ваш шлях да беларускай мовы?**

**АТ:** Няпросты. Нарадзіўся я ў Амсціславе на мяжы з Расіяй, бацька ў мяне з Расіі, нацыянальнасць у мяне запісана рускі, бо маці мая, хоць і з беларускай шляхты, але нарадзілася ў Чалябінску. Першым штуршком была мая настаўніца беларускай мовы. Яна стварыла ў школе тэатр, дзе мы ставілі «Пінскую шляхту», чытаў я са сцэны вершы па-нямецку і па-беларуску, так паціху далучыўся да беларускай мовы. Ну і, канечне, вялікі ўплыў на мяне зрабіў Якуб Колас, бо ў 8-м класе дзяўчаты на дзень чырвонага войска падарылі мне «Новую зямлю». Я хварэў, не было чаго рабіць, і пасля таго, як я свядома прачытаў гэты твор, нешта змянілася.

**«НН»: Цяжка было перайсці на беларускую мову ў савецкі час?**

**АТ:** Вядома. Маглі «плюнуць у твар», маглі абразіць. Мая бабуля, якая вучылася з Аркадзем Куляшовым, аднойчы заплакала і сказала: «Унучак, што ты робіш? Цябе за гэтую мову заб'юць!» Яны памяталі 1930-я гады. Большая частка людзей чаму не размаўляе? Бо ў іх сядзіць генетычны страх.

**«НН»: У якіх традыцыях Вас выхоўвалі?**

**АТ:** Калі мне было 4 гады, то бацькі развяліся, мяне пачала гадаваць бабуля, але яна заўсёды была на працы, таму гадавала мяне прабабуля, так што я чалавек XIX стагоддзя і вельмі рады, што мяне выхавалі ў старых шляхецкіх традыцыях, як гараджаніна, навучылі паважаць сябе. Вучыўся на выдатна, школу скончыў з залатым медалём, універсітэт з ленінскай стыпендыяй, аспірантуру на выдатна, абараніў кандыдацкую дысертацыю ў найлепшай доктарскай радзе Савецкага Саюза «па блату». Бо вельмі добрая дысертацыя была.

## Я не люблю спорт, лепш 5-6 складаных калодак раскалю

**«НН»: Што б Вы параілі тым людзям, якія вырашылі пераходзіць на беларускую мову, але вагаюцца?**

**АТ:** Па-першае, нельга вагацца. Я ж выкладчык, дацэнт і сваім студэнтам кажу: «Лупіце на трасянцы!» Адразу немагчыма добра гаварыць. З цягам часу вы гэтыя словы заменіце на беларускія. Па-другое, заўжды перад сном хвілін 40 чытайце на беларускай мове, слухайце беларускую музыку. І тады мозг будзе ўсю ноч думаць па-беларуску.

Беларуская мова робіць чалавека мацнейшым. Наша мова багацейшая за расейскую. Беларускі слоўнік Піскунова ў два разы большы, чым самы вялікі слоўнік расейскай мовы.

**«НН»: А вось як паводзіць сябе, калі пачынаюць кпіць з беларускай мовы?**

**АТ:** Трэба заўсёды адказваць жартам і ніколі не крыўдзіцца. На кожную кпіну ёсць вельмі добры жарт. Калі пытаюцца, ці з БНФа ты ці яшчэ адкуль, трэба адказаць: «Я з бронзавага веку». Хай гэты чалавек чэша патыліцу.

**«НН»: З чаго звычайна складаецца Ваш дзень?**

**АТ:** З працы. Але перыядычна мяняю від дзейнасці, бо мне неабходна папрацаваць фізічна. Ці дровы пасекчы, ці снег пачысціць. Я не люблю спорту, лепш 5-6 складаных калодак раскалю.

**«НН»: Чым стала для Вас ТБМ за час яго існавання?**

**АТ:** ТБМ займае траціну майго дня, а тое і палову. Часта прыходзіцца працаваць у суботы, прыходзіць у нядзелю, калі тут нікога няма. Гэтая праца цалкам бясплатная і валанцёрская, грошы, як і ўсе іншыя, зарабляю ў іншых месцах. Я зараблю грошы заўсёды тымі спосабамі, якія мне цікавыя. Калі нецікава і грошы вялікія, я працаваць не буду. Некалькі тысяч даляраў на чорны дзень я маю, а больш і не трэба. Нельга рабіць з грошай культу. Калі б я не займаўся навукай, то даўно б быў мільянерам. Я ўмею прыцягваць грошы, мяне прабабка навучыла.

**«НН»: Вось Вы ўзначальваеце ТБМ 13 гадоў, не стаміліся?**

**АТ:** Стомленасць, канечне ж, ёсць. Але самае галоўнае тое, што няма ахвотных забраць гэтую справу. Я б без пытанняў аддаў, але такіх няма. Я кажу звычайна, калі вы хочаце заняць маё месца, то павінны кожны месяц знайсці 10 мільёнаў. Вось калі знойдзеце такую суму, я вам аддаю пячатку і ўсё. Тут жадаючыя знікаюць. Мала быць проста валанцёрам, ты яшчэ павінен быць фінансавым менеджарам.

**«НН»: Неаднаразова сутыкалася з меркаваннем, што ТБМ не паспявае за сучаснымі тэндэнцыямі і выклікамі сённяшняга часу.**

**АТ:** Яны проста брэшуць. Калі нехта так кажа, то хай яны прыйдуць і ўступяць у ТБМ і пакажуць, як трэба рабіць. Прыходзяць такія, месяц папрацуюць і сыходзяць. Усе могуць пацяўкаць і казаць, дзе і што кепска, а прыйсці і зрабіць — не кожны можа. Самому прыходзіцца пісаць на сайт, падпісваць «наш карэспандэнт», каб прозвішча шмат не мільгала.

**«НН»: Шмат звяртаюцца з прапановамі ці па дапамогу?**

## Прызначылі новага кіраўніка КДБ, а я яму адразу — каляндарык з Каліноўскім

**АТ:** Вельмі шмат. Але я кажу: ты гэта прапаноўваеш — ты гэта і зрабі, а я потым пагляджу на цябе ці сур'ёзны ты чалавек. З 10 чалавек другі раз прыходзіць толькі чалавекі 2-3. Па дапамогу звяртаюцца шмат. Пытаюць, як дабіцца садка беларускамоўнага, як вывучыць беларускую мову, пытаюць пра курсы і вельмі дзівяцца, што яны бясплатныя. Грошы мы не бяром, толькі ахвяраванні. Мы спіс ахвярадаўцаў друкуем у газеце «Наша слова», але толькі калі чалавек хоча, бо, напрыклад, прадпрымальнікі не хочуць, каб іх афішавалі. Яны нам моцна дапамагаюць.

**«НН»: А ціск ёсць?**

**АТ:** Бывае ціск з боку вышэйшай улады, бывае — мясцовая перашкаджае. І агенты прыходзілі, і выбухоўку шукалі, рознае было. Але мы адзіная арганізацыя, якую ўлада ведае і з якой лічыцца. Любіць — не любіць, а паважаць — паважаюць. Бо менавіта ТБМ перапісваецца з міністрамі. Мы гэтую перапіску не хаваем, а друкуем у «Нашым слове». І мы адзіныя, хто віншуе з прызначэннем усіх чыноўнікаў. Вось прызначылі Святлова, а на заўтра я яму ліст і цытату Лукашэнкі, як трэба беларускую мову любіць. Такіх цытат у мяне штук дзесяць. Прызначылі новага кіраўніка КДБ, а я яму адразу — каляндарык з Каліноўскім і віншаванні. Там таксама розныя людзі ёсць. Наша задача — не давесці нацыю да расколу, не давесці яе да грамадзянскай вайны. Таму я вельмі асуджаю нашых ультрадэмакратаў, якія тут з рэжымам ваююць. Рэжым, дзякуй Богу, не расейскі, не кітайскі, не польскі, а свой, таму яго можна любіць, можна не любіць, але нельга давесці да нейкіх стрэлаў.

**«НН»: Як не апусціць рукі ў нашых умовах?**

**АТ:** Апускаюць рукі толькі гультаі. Пісаць, чытаць, размаўляць, маляваць, што Бог даў, тым і карыстацца. Для мяне самае вялікае шчасце — гэта быць здаровым і працаваць.

**«НН»: Падзяліцеся, калі ласка, тымі правіламі і запаветамі, якімі карыстаецеся ў жыцці?**

**АТ:** Першае — вера ў Бога. Гэта самае галоўнае. Другое — павага да старэйшых. І трэцяе — павага ўвогуле да ўсіх людзей. Лепш за 10 прыказанняў ніхто не прыдумаў. І яшчэ трэба любіць і паважаць сябе. Бо хто не любіць сябе, той ніколі не будзе паважаць іншых.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**

**Алег Трусаў**

Нарадзіўся ў 1954 у Амсціславе. Археолаг і грамадскі дзеяч. Кандыдат гістарычных навук (1981). Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны (ТБМ). Дацэнт кафедры гісторыі Беларусі і музеязнаўства Беларускага ўніверсітэта культуры. Жанаты, мае дачку.

# Падарожжа вакол Зямлі: Манголія

**Кругасветны падарожнік Яўген Ціханаў піша з Манголіі.**



**У мангольскіх мястэчках шырокія вуліцы — па 50 метраў.**

Па бяскрайніх стэпах 20-гадовы мінчук вандраваў з сябрам Раманам Свечнікавым, з якім разам выпраўляўся з Мінска і спарадычна сустракаецца на шляху. Яны разам выехалі з Ірана і прайшлі Азербайджан, у Дагестане разышліся, зноўку сустрэліся ва Уфе, пасля зноў разышліся. Бачыліся ў Новасібірску, потым тусаваліся разам на Алтаі і рушылі ў Манголію.

Пешага пераходу на мяжы Расіі і Манголіі няма. Мы прыходзім на мытню, і нам раяць пачакаць — хутка прыедуць мангольскія «чаўнакі», можа, возьмуць. Сапраўды, праз паўгадзіны з'яўляецца цэлая калона ўазікаў. Яны едуць да бліжэйшай запраўкі, напаўняюць сотні каністраў палівам і разварочваюцца. Расійскае паліва каштуе ўдвая танней, чым у Манголіі. Адзін кіроўца махае нам рукой: сядайце, давязу. Папросіць грошы, мяркуем мы, але моўчкі сядаем. А ўжо на тэрыторыі мытні пачынаем сумную песню пра тое, як гэта — падарожнічаць без грошай. Твар кіроўцы сумнее, і нават магічнае «вакол свету» ўжо не выклікае яго цікавасці. Так ці інакш, мы паспяхова пераязджаем мяжу і кіруемся ў невядомасць.

Да першага горада ехаць больш за гадзіну, і я засынаю. Калі расплюшчваю вочы, высвятляецца, што дарога скончылася і мы ляцім проста па стэпе, па купінах, і выбоінах. Гэтая трасяніна працягваецца досыць доўга. Навокал цямнее, і толькі святло нашых фар выбівае кавалачак прасторы перад машынай.

У Баян-Ульгій прыязджаем глыбокім вечарам. На галоўнай вуліцы — напаўразбураныя платы, бедныя юрты за імі, брудныя цагляныя крамы. Трэба шукаць месца для сну. Я гатовы грукаць у першую юрту, але Рома настойвае на закінутым будынку ці незавершанай будоўлі. Непадалёк у цемры бачныя абрысы пяціпавярховікаў, і мы кіруемся туды.

**Манголія**

вялізная маланаселеная краіна ў Азіі. Займае стэпы і пустыні між расійскай Сібір'ю і Кітаем. Пасля кароткага перыяду імперыі Чынгізідаў краіна трапіла пад уплывы Кітая. У XX ст. стала пратэктаратам Савецкага Саюза. Пасля падзення СССР улады Манголіі ўраўнаважылі ўплывы магутных суседзяў цеснымі сувязямі з ЗША.

Адзін з іх недабудаваны, напаўзаселены. Пакуль Рома праверае незавершаную частку, я заходжу ў жылую: можа, знайду пустую кватэру ці выхад на гарышча.

Вышыня лесвічнага пралёта наўрад ці перавышае два метры: разам з заплечнікам я не змяшчаюся, даводзіцца зняць. Прыступкі няроўныя, быццам лесвіца зробленая ўручную. Я даходжу да апошняга паверха, але ні пустых кватэраў, ні гарышча няма. Паўсюль ляжыць будаўнічае смецце, з-за дзвярэй далятае гоман сямейных спрэчак. Дзіўна, як увогуле людзі могуць жыць у кватэрах з двухметровай вышынёй столі.

Ідзём шукаць далей. Пейзаж навокал постапакаліптычны. У адным з двароў заўважаем вялізарны бак, у якім гарыць смецце. Побач — карова: ці то грэецца, ці то шукае штось у смецці. Водбліскі полымя раптам выхопліваюць з цемры чалавека, які сядзіць на скрыні, нібы ў прастрацыі. Карова павольна выходзіць з бака, полымя адбіваецца ў яе вачах.

Вакол стаяць ці то гаражы, ці то жылыя трушчобы.

Пошукі прыводзяць нас да мячэта. На шчасце, менавіта ў гэты момант да яго прыязджаюць нейкія людзі. Мы пытаемся, ці можна тут пераначаваць. Людзі доўга раяцца, потым звоняць гаспадару і нарэшце даюць дабро.

У нашым распараджэнні — сто квадратных метраў халоднай падлогі. У мячэце мы начуем упершыню, і адразу паўстае пытанне, як класціся: нагамі да алтара ці галавой. Абіраем нейтральнае «ўпоперак» і ўладкоўваемся ў куце пад батарэяй. Сярод ночы прыходзіць гаспадар, уключае падагрэў падлогі і жэстам паказвае нам: тут, маўляў, цёпла. Перабіраюся на цёплы лапік падлогі. Сняцца сутарэнні, цагляныя тупікі і люты-люты холад.

На наступны дзень мы блукаем па горадзе, разглядаем мясцовыя выбітнасці. На вуліцах паўсюль ляжыць смецце, калі яно сабранае ў кучу, яго тут жа і паляць. Паўсюль ідзе будоўля: ставяць трох- і пяціпавярховікі, прыватныя катэджы. Банк, сімвал багацця любой краіны, уражвае беднатой: абшарпаныя сцены, выбітае шкло ў дзвярах, косткі пасярод газона.

У паветры стаіць водар незавершанасці, няўпэўненай беднаты: маўляў, цяпер абы-як, але ёсць, ёсць яшчэ шанец!..

Перад выхадам на трасу спрабуем прыгатаваць рыс, але вятрыла такі, што гарэлку задзімае, дый зімовая гаручая сумесь пачынае падмярзаць. Ідзём у бліжэйшую хату, жэстамі паказваем, што хочам скарыстацца печкай. Гаспадыня дапамагае зварыць рыс, вучыць некаторым словам. Ужо потым мы даведваемся, што ў гэтай частцы Манголіі жывуць пераважна казахі і вучыць яна нас, адпаведна, казахскай. Калі рыс гатовы, мы збіраемся сысці, але заходзіць гаспадар і настойліва вяртае нас за стол. На стале з'яўляецца гарбата і прысмакі, гаспадар ставіць у печ позы — вялікія пельмені, згатаваныя на пары. Госці тут — нячастая з'ява, і ён хоча пачаставаць нас як след. З цяжкасцю з'ядаем па некалькі позаў і выкатваемся з дома. Гаспадары напакоўваюць наш кацялок даверху астатнімі позамі і махаюць на развітанне.

Да Улан-Батара каля 1800 км, якія мы плануем пераадолець за два дні. Але, калі выходзім за горад, нашы надзеі разбіваюцца аб суровую мангольскую рэальнасць: дарог тут няма. Перад намі ляжыць стэп, спярэшчаны слядамі ад машын: ідзі, куды хочаш, лаві, каго хочаш.

**Бартавы дзённік**

13.08 — з'яўляецца першая машына. Махаем рукой, спыняецца. Абяцае адвезці на 20 км.

13.30 — прыехалі. «Вам — між тых гор, нам — проста». Вакол толькі стэп і вецер, дзесь між тымі гарамі Улан-Батар. «Я не баюся!» — кажа Рома. Ідзём указаным кірункам.

14.00 — машына на гарызонце! Яна праедзе за паўкіламетра ад нас. Трэба спяшацца!

14.10 — цьху, не паспелі. Бег з дваццаціпяцікілаграмовым заплечнікам па стэпе — не найлепшы занятак. Потныя, хутка змерзнем. Затое выйшлі на дарогу.

15.00 — МАШЫНА! Бягу напярэймы, махаю рукамі. Спыняецца. «Сядайце, таварышы!» — кажа жанчына. Абяцаюць адвезці нас да нейкага паселішча, за 70 км. Гэта быццам па дарозе.

16.30 — пункт прызначэння. Пераязджаем замерзлую раку, машыну некалькі разоў заносіць на лёдзе. Калі выходзім, жанчына пытае: «А заплаціць?» Кажам: няма грошай.

## І ніводнага дрэва

Паселішча невялікае. За апошнімі дамамі бясконцая роўнядзь. Дзесь на гарызонце бачныя горы. Адтуль, з бясконцасці, панура брыдуць калматыя каровы і які. Трэба даведацца наконт машынаў і шукаць месца для начлегу.

Каля крамы да нас па-англійску звяртаецца жанчына. Яна расказвае, што дарога на Улан-Батар крыху ўбаку ад паселішча. Кажа, што сёння машынаў ужо не будзе, можа, будуць заўтра. На пытанне, адкуль яна ведае англійскую, гучыць адзіны магчымы адказ: выкладае англійскую ў мясцовай школе.

Што ж рабіць, да заходу сонца ёсць крыху часу і мы вырашаем агледзецца. Цэнтральная вуліца падзяляе паселішча на дзве часткі: па адзін бок размешчаныя адміністрацыйныя ўстановы і дамы больш заможных жыхароў, па другі — бедныя хібары і юрты. Мы знаходзім аддзяленні паліцыі і сувязі, два банкі і школу. Перад школай — бюст невядомага мангольскага героя, запаскуджаны птушкамі. Дзіцячыя прыбіральні стаяць за дваццаць метраў ад школы і маюць сапраўды лялечныя памеры. Сям-там — напаўразбураныя будынкі, акупаваныя мясцовымі каровамі. Штосьці не ўкладаецца ў галаве, цярэбіць падсвядомасць, але я доўга не магу ўцяміць, што менавіта. І раптам разумею: тут, у паселішчы на некалькі соцень двароў, няма ніводнага дрэва.

## Радасць мець гасцей

Трэба дзесь начаваць, і мы вырашаем знайсці нашу настаўніцу. Нам тлумачаць, як прайсці да яе дома. Калі да яго застаецца пяцьдзясят крокаў, нам напярэймы выходзіць сталы казах. Ён пытае, што мы тут шукаем, а калі даведваецца, што нам няма дзе спаць, запрашае да сябе. «Дом, мой дом, — тлумачыць ён, — little, але — мой! Хадзем, спаць будзеш, кушаць. Не трэба грошай».

Дом мае памер 4x6 метраў і складаецца фактычна з аднаго пакоя. Печ пасярэдзіне фармальна аддзяляе ад агульнай прасторы зону спальні, дзе стаяць тры ложкі. У іншай частцы — камода з тэлевізарам, невялікі стол, шафа з посудам. Каля дзвярэй вісяць рукамыйнік і брудны ручнік, ля супрацьлеглай сцяны — ляжанка. Жонка гатуе вячэру, гарэзяць дзеці. Дзяцей чацвёра, старэйшай каля дзесяці, малодшы яшчэ поўзае.

**Калі перамяшчаешся аўтаспынам у Манголіі,**

памятай — дарог там амаль няма. Толькі бяскрайні стэп, спярэшчаны слядамі машынных колаў. Машына можа праехаць за некалькі соцень метраў ад цябе. Або яе можа не быць цэлы дзень. Хуткасць майго перамяшчэння ў сярэднім склала 21 км/г. Гэта не максімум, але не варта разлічваць на штосьці большае за 50 км/г.



**Машына, гружаная скурамі. Баян-Ульгій, Манголія.**



**Нема — так завуць кіроўцу, які вязе мяне да сталіцы.**

**Хуткасць ветру часам дасягае 20 м/с**

У спалучэнні з марозам у 25—35°С гэта можа ўяўляць пагрозу для жыцця. Запасайся цёплай вопраткай і плануй маршрут так, каб мінімізаваць пераходы па адкрытай мясцовасці. Калі абутак недастаткова цёплы, можаш абгарнуць ногі паўзверх шкарпэтак газетамі. Сачы, каб бялізна і шкарпэткі былі чыстымі, гэта дапамагае захоўваць цеплыню.

**Шукай кізякі**

Дрэваў у паўднёвай Манголіі няма, але ты можаш выкарыстоўваць кізяк, сухі гной, каб раскласці вогнішча: гэта выдатнае паліва, якое дае высокую тэмпературу і доўгае полымя. Гэта, канечне, тычыцца незаснежаных участкаў — знайсці гной пад снегам будзе цяжка.



Гір знутры.

Гаспадар паказвае нам далейшы маршрут па дзіцячых контурных мапах, вучыць казахскім словам. Вячэраем.

Мы для гэтай сям'і, магчыма, першыя госці за колькі год.

## На перавале

Наступным ранкам выбіраемся за паселішча, трымаемся ўказанага кірунку. Нам шэнціць: праз некалькі хвілін нас падбірае машына і вывозіць на трасу. Траса ў мангольскіх умовах — шчасце. Гэта значыць, ты не згубіш кірунак і машына не праедзе дзесь збоку.

Па гэтай шашы мы тэпаем некалькі гадзінаў, перш чым нас наганяе пазік. Спыняецца, хоць і так набіты пад завязку. Спераду сядзяць тры чалавекі, ззаду — яшчэ пяць... Упершыню ў жыцці я еду ў багажніку ўазіка. На перавале мы мусім выйсці: нам традыцыйна налева, машыне традыцыйна проста.

На перавале вецер такі, што кожны крок даецца з цяжкасцю. Вусны замярзаюць, і я падымаю шалік вышэй. Пара асядае шэранню на бровах. На вейках — кропелькі лёду. Я міргаю, і вейкі змярзаюцца, даводзіцца церці вочы кулакамі.

Мы ідзём гадзіну, але ніводнай машыны няма. Спыняцца нельга — замерзнем. Хочацца верыць, што хутка будзе хоць які дом, дзе нас сагрэюць...

Мы ўжо амаль здаёмся, калі чуем за спінай гук матора: з'яўляецца караван з чатырох трохтонных хёндайчыкаў. Нам неверагодна шэнціць, машыны ідуць наўпрост да Улан-Батара.

**Бартавы дзённік (праз некалькі дзён)**

15.45 — учора ноччу пасярод пустэльні прабілі бак. Вакол гудзе вецер, немагчыма выйсці з кабіны: зносе. На бліжэйшыя 100 км — аніводнага паселішча, запраўка яшчэ далей. Паліва выцекла. Дзякуй Богу, астатнія кіроўцы заўважылі, вярнуліся, дапамаглі выправіць.

15.53 — пачынаецца снег. Дарогу перамятае. Адчуванне — быццам едзем па аблоках. Прыгожа.

15.57 — вецер мацнее. Кіроўца нервуецца, кажа — будзе бяда.

16.04 — страшная завея, пярэдняя машына знікае з далягляду. Зніжаем хуткасць да 20 км/г. Кіроўца забараняе мне здымаць, паказвае на неба — маліся, маўляў.

16.10 — з кабіны не бачна ні сонца (хоць на небе — аніводнага воблака), ні краю дарогі. Скідаем хуткасць да 10 км/г.

16.16 — раптоўна — дзве сустрэчныя машыны на адлегласці 15 м. Фары сляпяць, ледзь пазбягаем сутыкнення.

16.30 — раптоўна буран сціхае. Спыняемся, шчаслівыя, чысцім машыны. Хутка будзе зноў, запэўніваюць кіроўцы. Едзем далей.

17.01 — абапал дарогі з'яўляюцца пяціметровыя снегавыя «тарнада». Шарэе, снежная хуста зноў засціць сонца.

17.50 — бушуе навальніца. Спыніліся, я хацеў выйсці, але дзверы вырвала з рук. На шчасце, з завесаў не сарвала, але выкруціла так, што яны перасталі зачыняцца. Кіроўца вылаяў мяне. Дзверы захлопнуў, але засталася вялікая шчыліна...

18.35 — нарэшце — вёска. Тут жывуць сваякі майго кіроўцы, будзем начаваць у іх.



Гір (юрта) — традыцыйнае мангольскае жытло з сонечнай батарэяй.

## У юрце

Нарэшце гэты вар'яцкі дзень скончыўся. Я заходжу ў юрту і аглядаюся. Гэта першая ўтульная юрта, што я сустракаю, можа, таму, што тут заўсёдна жывуць, а не здаюць падарожнікам. Яна мае каля пяці метраў у дыяметры, пасярэдзіне — зенітнае акно. Пад акном металічная печка. На падлозе лінолеум светла-драўлянага колеру, сцены абабітыя тканым нябёсна-блакітным ядвабам. Каля супрацьлеглай ад увахода сцяны стаіць канапа, над ёй — дыванок і два чорна-белыя здымкі, перад ёй — невысокі доўгі стол. Па баках ложкі, вольная прастора сцен запоўненая трумо і камодамі, над ложкамі — дываны.

Усёй дальнабойшчыцкай гурмой (дзевяць чалавек) мы ўвальваемся ў гэтую выспу ўтульнасці, рассаджваемся па ложках і зэдліках. На сэрцы адразу становіцца цёпла і хораша. Печка нягучна і ўпэўнена гудзе, дзве свечкі на стале асвятляюць юрту дрыготкім святлом. Дзесь там па-ранейшаму вецер, завіруха, але яны ўжо не страшныя.

На стале з'яўляецца трохлітровы тэрмас з гарбатай. Маладая гаспадыня разлівае яе па піялах, падае спачатку старому гаспадару, а потым і астатнім па коле. Яе маці гатуе локшыну і варыць суп.

Пасля вячэры выходжу на вуліцу астудзіцца. Навальніца прыціхла, і я вырашаю прабегчыся да краю вёскі. Вуліца мае 50 метраў ушыркі і каля 500 удоўжкі, яна працінае вёску наскрозь, пачынаючыся і сканчаючыся ў бязмернай снежнай прасторы. За апошнім домам — белая бясконцасць. Здаецца, зрабі крок — і ніколі не вернешся, сыдзеш з людской памяці, так і будзеш блукаць у вечнасці.

Бегам вяртаюся дамоў, хаваюся ад вялікага чорнага сабакі, які з брэхам ганіцца за мной.

Час спаць. Стол адсоўваюць, гаспадыня сцеліць на падлозе матрацы. Шчыльна, адзін да аднаго, уладкоўваемся ў спальнікі, а гаспадыня са смехам завальвае нас таўшчэзнымі коўдрамі...

**Ежа**

Традыцыйная мангольская ежа складаецца з трох «м»: мяса, мука, малако. Падчас дзесяцідзённага падарожжа да сталіцы я еў некалькі камбінацыяў мукі і мяса ў рознай паслядоўнасці.

**Бууц**

Слова абазначае «мяса, загорнутае ў цеста». У расійскай культуры страва мае назву «позы». Гэткія вялікія пельмені, прыгатаваныя на пары.

**Цуйван**

Локшына ручнога прыгатавання, смажаная з мясам. Можа дадавацца морква і капуста. Да цуйвана звычайна падаецца свежая цыбуля.

**Шул**

Тая ж локшына з мясам, але вараная. Мяса рэжацца на кавалкі, заліваецца вадой, туды ж кладуць косткі з мясам. За некалькі хвілінаў да гатоўнасці дадаецца локшына. Косткі з мясам могуць быць пададзеныя асобна, перад супам, а могуць быць раскладзеныя па талерках.

**Сутэй (цагаан) цай**

Галоўны атрыбут мангольскай кухні. Зялёная гарбата з малаком, соллю і тлушчам. Гатуецца раніцай у вялікім аб'ёме, захоўваецца на працягу дня ў тэрмасах.

**Пурсак**

Да супа і сутэй цая падаецца пурсак — прэсны мучны выраб, смажаны ў тлушчы. Пурсак звычайна гатуюць на некалькі дзён і захоўваюць у мяхах на холадзе.

## Кізяку пашкадавалі

На наступны дзень п'яны мясцовы на легкавіку чапляе адну з нашых машын, на што мой кіроўца адказвае адназначна: спрабуе адламаць ад легкавіка люстэрка. Завязваецца сур'ёзная бойка, мы разнімаем. Тут заставацца болей нельга.

У бліжэйшым горадзе спыняцца таксама небяспечна: той легкавік толькі што абагнаў нас і прыехаў сюды. У нас зноў непаладкі, але мне ўжо ўсё роўна: я магу думаць толькі пра тое, як не памерці ад холаду. У машыне не працуе печка, тэмпература значна ніжэйшая за нуль. З маіх дзвярэй і акна паддзімае. Я спрабую скурчыцца так, каб абараніцца ад скразняку з дзвярэй і пры гэтым не прыціскацца да ледзяной спінкі.

Часам правальваюся ў няпэўны сон, часам проста сяджу і гляджу перад сабой, намагаючыся мінімізаваць рухі і цеплааддачу. А трэцяй ночы мы нарэшце спыняемся. Нам з Ромам выдзяляюць асобную юрту. Гаспадыня распальвае печку, але відавочна шкадуе паліва. Гэта смешна, бо печкі тут топяць кізяком, сухім гноем. «Лайна пашкадавала», — жартуем мы з Ромам, не распранаючыся, залазім у ложак і накрываемся двума спальнікамі.

Па чутках, заўтра ўвечары мы будзем ва Улан-Батары. Цяжка паверыць, бо да яго кіламетраў семсот. Так ці інакш, за тыдзень дарогі мы праехалі тысячу кіламетраў (тое, што звычайна можна пераадолець за дзень), памянялі колы больш за 20 разоў, прабілі ў пустэльні бак, зламалі печку, шкло, пасажырскія дзверы і пабіліся з мясцовымі. Тыдзень мы харчаваліся мясам і мукой у розных камбінацыях. Цяжка ўявіць, што чакае наперадзе, але на аднастайнасць жыцця скардзіцца няма як.

Я глыбей ныраю пад спальнік, прыціскаюся да Ромы і засынаю.



Нас запрасіла на вячэру казахская сям'я.

# Сядзібу ў Падароску выкупіў беларус з Эстоніі за $120 тысяч

**Расійскі бізнесмен беларускага паходжання, які жыве ў Таліне, хоча адкрыць у сядзібе музей, гатэль і карчму.**

Аўкцыён па продажы сядзібы ў Падароску нарэшце адбыўся. 27 снежня 2012 сядзіба Бохвіцаў, якая знаходзіцца на поўдні Ваўкавыскага раёна пры дарозе з Брэста ў Гродна, была прададзеная расейскаму бізнесмену Паўлу Падкарытаву.

Пачатковы кошт аўкцыёну складаў 971,5 мільёна рублёў (гэта каля $113 тысяч). У пратаколе пераможцы аўкцыёну пазначана сума 1,02 мільярда рублёў, гэта каля $120 тысяч у эквіваленце. Цяпер бізнесмен мусіць заключыць дамову з Ваўкавыскім райвыканкамам і сплаціць пакупную цану.

«Летась была праведзеная новая ацэнка і сядзібу мусілі б выставіць на аўкцыён коштам больш за $200 тысяч, — расказвае Падкарытаў. — Наўрад ці я ўзяў бы ўдзел у ім у гэтым выпадку». Потым, згодна з прэзідэнцкім указам, з агульнай цаны быў выключаны кошт «зялёных насаджэнняў» і выніковая сума склала каля $95 тысяч. Гэта здалося «Гроднаваблмаёмасці» замалым, таму яны павялічылі цану яшчэ амаль на 20%. Хоць прэтэндэнт на куплю быў толькі адзін — Падкарытаў.

### Планы новага гаспадара

Павел Падкарытаў — расійскі бізнесмен, які цяпер жыве ў Таліне. Ён нарадзіўся ў 1968 годзе ў Екацярынбургу, мае юрыдычную адукацыю. Падкарытаў быў акцыянерам карпарацыі «Уралінвестэнерга». Пасля некалькі спробаў перападзелу маёмасці ў 2005 годзе частка менеджэраў і акцыянераў кампаніі, сярод якіх быў і Падкарытаў, арыштавалі. Бізнесмен выйшаў на волю толькі ў 2010 го-дзе. Цяпер ён актыўна займаецца дабрачыннымі праектамі.

Маючы па бабулі беларускія карані, ён, знаходзячыся ў СІЗА, вывучыў беларускую мову, стаў сябрам ТБМ. Па яго словах, найпершае, што трэба зрабіць у Падароску, — аднавіць сядзібу і парк вакол яе, наколькі гэта магчыма ў аўтэнтычным стане. Падкарытаў кажа, што будзе імкнуцца зрабіць так, каб гэтае месца было прывабным для турыстаў як з Беларусі, так і з Еўропы і Расіі.

Ён мае планы «зрабіць музей сядзібнага побыту, а калі атрымаецца, таксама адкрыць невялікі гатэль і, магчыма, карчму традыцыйнай беларускай кухні».


Сямён Печанко

### Захавалася, дзякуючы пажарным

Сядзіба Бохвіцаў знаходзіцца на самым поўдні Ваўкавыскага раёна, на мяжы Брэстчыны і Гродзеншчыны. Падарожнік, які рушыць па трасе Р44 (асноўная паміж Брэстам і Гроднам), не можа не заўважыць велічны парк і высачэзную браму. Трохі далей у парку стаіць і сама двухпавярховая сядзіба.

Яна пустуе ўжо амаль дзесяць гадоў, калі з яе выехала праўленне мясцовага калгаса. Ад поўнага занядпаду гістарычны будынак ратуе толькі тое, што побач знаходзіцца пост мясцовых пажарнікаў. Яны ўпадабалі сажалку побач з сядзібай.

Сваім стварэннем сядзіба абавязаная роду Бохвіцаў. У 1854 годзе маёнтак у Падароску набыў сын вядомага філосафа Фларыяна Бохвіца, Раман. Ён і перабудаваў сядзібны дом у стылі позняга класіцызму ў 1854—1856 гг. Пры ім быў пабудаваны спіртзавод, вадзяны млын (не захаваўся), сукнавальня (захаваўся падмурак) і шмат іншага.

Дарэчы, Ваўкавыскі раён — лідар па паспяховых продажах занядбанай гістарычнай спадчыны. Некалькі гадоў таму іншы расійскі бізнесмен, Вадзім Селіхаў, набыў за $105 тысяч сядзібу ў Красках. Паміж ягонай уласнасцю і сядзібай, якая цяпер належыць Падкарытаву, усяго каля пяці кіламетраў.

**Ягор Марціновіч**

**Бібліятэка**

# Суровая сэксуальнасць паўночных беларусаў

Ён стаіць на сцежцы над возерам на паўдарозе між Полацкам і Мінскам. Заплечнік, на адным плячы — кайстра і фотаапарат — на другім. Жылістая рука замерла пад лямкай. На ім чорная майка, шэрыя паходныя штаны. Выгбы бязлюдных узгоркаў, аперазаных пералескамі, сыходзяць вакол возера за далягляд. Мяккі марэнны ландшафт паўночнай Беларусі, які Зянон Пазняк назваў непаўторным у свеце.

Мужчыну зваць Уладзімір Лобач, ён этнограф — сапраўдны, — які вывучае аўтэнтычную культуру зямель летапісных крывічоў. 20 гадоў ён ходзіць дарогамі Паўночнай Беларусі, запісвае. Яшчэ ён эсэіст і паэт. Таксама ад унутранай патрэбы, паўнапраўны. Гэтае яго фота — на вокладцы кнігі вершаў Ulaslovy.

Ула — гэта рака на Паўднёвай Полаччыне. Гэта не спаскуджаны лішнімі гасцямі край строгага характва. Менавіта яго вывучае Лобач-этнограф, і гэтая ж зямля стала гераіняй ягоных вершаў.

На такіх людзях, як Лобач, падарожніках і працаўніках, не затрымліваецца лішні тлушч, у прамым і пераносным сэнсе гэтага слова. Няма лішняга туку і на ягоных вершах. Іх стыль эканомны, гэта не паэзія для эстрад. Хоць чуйны спявак мог бы здабыць з гэтага зборніка пару шэдэўраў: «А нас стралялі па адным і ўночы...» («Крывічы 1930-х»), «Птушкі не маюць імёнаў...» («Кола»).

У вершах прадказальна шмат сімволікі, якую аўтар вывучае «на полі нардычным, пад небам нардычным». Але гэта не якаясьці ультраправая паэтыка, уласцівая, напрыклад, позняму, заблуканаму Славаміру Адамовічу. Гэта спакойная, суровая лірыка («Вайну, як і гару, не кожны раз аб'едзеш...»). Жанчыны так не думаюць і не пішуць («Бі. А ты бі на ўзлёт...»).

Свет «Уласловаў» ультрамужчынскі, а гэта такая рэдкасць сёння. Аўтар узгадвае «Край і Мову» як жыццёвы прынцып — і гэта таксама частка гэтага мужчынскага, жыльнага выбару, які «вусаты пракуратар так і не здолеў зразумець».

У адрозненне ад ультраправых, Лобач не робіць з барацьбы і ксенафобіі культу, як не жыве змаганнем і не ганарыцца сваёй выключнасцю воўк — крывіцкі татэм. Лобач ставіцца да інакшасці, да тых, хто «любіць янота з глыбокай нары», без нянавісці («Загадай, каго хочаш сустрэць...»). Гэта не талерантнасць дэкадэнта, а памяркоўнасць, якая ідзе ад умення слухаць, назіраць і ад вялікага вопыту, ад пройдзеных дарог і сустрэтых людзей.

Што цікава, Лобач не дапускае пачутага, «словаў іншых» у сваю паэзію. У ягоных вершах ніхто не гаворыць, акрамя самога героя. Не мова глаголіць Лобачам, ён сам вызначае мову.

У сімвалізме Лобача трохі ёсць, з аднаго боку, ад Цэляна і еўрапейскіх мадэрністаў XX стагоддзя, з другога — ад традыцыйных японскіх лірыкаў. Але Полаччына Лобача — самадастатковы свет. Дарогі, брук і шэпты вады — тры скразныя вобразы гэтага зборніка, і тут увогуле не знойдзеш ніводнага вобразу з чужых краёў. Свайго хапае для ўсяго.

Проза Лобача звяртала ўвагі больш, чым ягоная паэзія. Ягонае апавяданне «Калядоўшчыкі» (2005), у якім ён вывеў пазнавальных персанажаў нашай дыктатуры http://nn.by/?c=ar&i=219, у свой час нямала каштавала асабіста рэдактарам «Нашай Нівы» і газеце. Нічога, няхай, затое scripta manent.

Студэнтам, у сярэдзіне 90-х, я прагна чытаў у «НН» эсэ Лобача і ягонага земляка Сяргея Шыдлоўскага, які апошняе дзесяцігоддзе, здаецца, прамаўчаў. А шкада. І радасць, што Лобач не маўчыць.

Вынішчэнне замоўчваннем — калькасна меншым і палітычна паняволеным культурам, у тым ліку і беларускай у цяперашняй РБ, даводзіцца з гэтым жыць. Ёй супрацьстаіць наша «праца жыльная з відна і да відна», ахвяраванне.

«І будзе перамога пасля бед — Радзіма вольная і любая жанчына».

Лобач — наш непаўторны сучаснік, і раю збіраць і адсочваць усё, што з ім звязанае. У тым ліку і гэтую 108-старонкавую кніжыцу, што выйшла ў «Логвінава».

**Андрэй Дынько**

Блог Уладзіміра Лобача

livejournal.com



Уладзімір Лобач. Ulaslovy. — Логвінаў, 2011.

**Сціслa**

**У Рыгора Барадуліна пералом пляча, зрабілі аперацыю**

Народны паэт паслізнуўся, выходзячы з Чырвонага касцёла. Новы год пісьменнік правёў на бальнічным ложку. Прагнозы лекараў — яшчэ колькі дзён паэту давядзецца пабыць у шпіталі, а потым адправяць далечвацца дадому.

**Польшча адмаўляецца фінансаваць «Басовішча»-2013**

Міністэрства адміністрацыі і інфарматызацыі Польшчы не выдаткавала сродкаў на правядзенне сёлетняга «Басовішча». Аднак арганізатары, «Беларускае аб'яднанне студэнтаў» і фонд Villa Socrates, спадзяюцца, што Міністэрства яшчэ перадумае, і збіраюцца запрашаць выканаўцаў з Беларусі, Польшчы, Літвы, Украіны і Расеі.

**На радыё «Беларусь» стартавала вяшчанне на кітайскай мове**

Ад 1 студзеня 2013 года міжнароднае радыё «Беларусь» пачало вяшчанне на кітайскай мове ў межах новай праграмы «Ваш сябар — Беларусь». Штотыднёвая праграма прысвечана адносінам Беларусі з Кітайскай Народнай Рэспублікай.

**Абвешчаны трэці літаратурны конкурс «Дэбют»**

Беларускі ПЭН-Цэнтр і Саюз беларускіх пісьменнікаў трэці раз абвяшчаюць прэмію «Дэбют» імя Максіма Багдановіча. Прэмія будзе ўручаная за найлепшую дэбютную кнігу аўтара ў веку да 35 гадоў, выдадзеную ў 2012 годзе, у трох намінацыях: «Паэзія», «Проза», «Мастацкі пераклад». Для намінацыі неабходна даслаць заяўку па адрасе: 220050, г. Мінск, а/с 218 (або pen@vessobel.by) да 31 студзеня 2013 года. Прэмія «Дэбют» заснаваная ў 2010 годзе і па традыцыі ўручаецца штогод у сакавіку ў межах святкавання Дня Паэзіі (21 сакавіка).

**СМ**

# Як забіць частку жанчыны

Піша Пётра Рудкоўскі.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Я быў зачаты дзесь у лістападзе 1977 года. У ліпені 1978 нарадзіўся, у жніўні таго ж года атрымаў пасведчанне аб нараджэнні, у 1996 — пашпарт. Пытанне: калі я стаў чалавечай асобай? Інакш кажучы: у якія перыяды майго жыцця мяне можна было са спакойным сумленнем забіць як не-чалавека?

## 1. Хто мае права «людзьмі звацца»?

Вольга Шпарага ў артыкуле «К проблеме аборта: философский взгляд» трапна абазначыла цэнтральны пункт нязгоды паміж прыхільнікамі і праціўнікамі забароны абортаў: *калі пачынаецца чалавечае жыццё?*

Погляд, што чалавечае жыццё пачынаецца ад зачацця, спадарыня Шпарага залічыла да разраду «рэлігійных», а права на аборт абгрунтавала тым, што «ні ў вучоных адпаведнага профілю, ні ў філосафаў няма аднагалоснага меркавання [наконт моманту пачатку жыцця чалавека]». Сама аўтарка згаданага артыкула запрапанавала два крытэры «быцця чалавекам»: разумнасць і цялесная цэльнасць. Прыгледзьмася да гэтых крытэраў.

Няясна, што тут маецца на ўвазе пад «разумнасцю». Ці маецца на ўвазе актуальная разумнасць (стан інтэлектуальнай актыўнасці), ці патэнцыйная разумнасць (магчымасць выконваць разумовыя дзеянні)? А пры любой інтэрпрэтацыі: якім чынам устанавіць, што X на нейкім адрэзку часу — «неразумны» (а значыць, яго можна забіць), а на іншым адрэзку — разумны (а значыць, забіваць нельга)?

Наконт «разумнасці» і «цялеснай цэльнасці» — што ж, будзем шчырымі: сярод вучоных і філосафаў няма кансэнсусу наконт таго, што такое разумнасць і цэльнасць. Такім чынам, высветліўшы, што забарона забіваць ненароджаных дзяцей — гэта чыста рэлігійная пазіцыя, варта б разабрацца, ці забарона забіваць, напрыклад, непаўналетніх, або інвалідаў у любым веку, або псіхічна хворых — ці гэта не супярэчыць секулярнай веры?

## 2. Вера ў існаванне чалавека

Давайце прыгледзімся да розных імператываў, скіраваных на ахову чалавечага жыцця:

(1) Не забівай габрэяў [бо габрэі — людзі];

(2) Не забівай кулакоў і буржуяў [бо кулакі і буржуі — людзі];

(3) Не забівай прыгонных сялян [бо прыгонныя сяляне — людзі];

(4) Не забівай неграў [бо негры — людзі];

(5) Не забівай беларусаў [бо беларусы — людзі];

(6) Не забівай імігрантаў [бо імігранты — людзі];

(7) Не забівай прыхільнікаў абортаў [бо прыхільнікі абортаў — людзі]. Дадамо да гэтага пераліку яшчэ некалькі, крыху іншага тыпу:

(8) Не забівай сіротаў, удоваў і бяздомных [бо яны — людзі];

(9) Не забівай старых людзей [бо яны — людзі];

(10) Не забівай інвалідаў і псіхічна хворых [бо яны — людзі];

(11) Не забівай нованароджаных дзяцей [бо яны — людзі].

На дадзены момант у секулярным свеце, як здаецца, пануе даволі ўстойлівы канэнсус наконт абавязковасці імператываў (1) — (11). Што праўда, наконт апошняга — (11) — справа не такая ясная.

Не так даўно ў аўтарытэтным часопісе «The Journal of Medical Ethics» быў апублікаваны артыкул біяэтыкаў Мінервы і Джубіліяні, у якім яны даводзілі, што нованароджанае дзіця не можа лічыцца чалавечай асобай у поўным сэнсе слова, такім чынам, бацькі павінны мець права вырашаць, ці забіць гэтае дзіця, ці пакінуць яго пры жыцці.

(12) Не забівай чалавечых эмбрыёнаў [бо чалавечыя эмбрыёны — людзі].

У чым праблема з імператывам (12)?

Секулярысты хорам адказваюць, што праблема ў тым, што абгрунтавальная *тэза* (якая тут месціцца ў квадратных дужках) мае *рэлігійны* характар, што гэта аб’ект веры, а вера, маўляў, павінна мець прыватны характар. Мяне як філосафа цікавіць тут метадалагічнае пытанне: адкуль ведаем, што імператывы (1) — (11) грунтуюцца на ведах, а імператыў (12) — на веры? А яшчэ: ці распадзел *вера — веда* або *рэлігійнае — навуковае* ўвогуле прыдатны да класіфікацыі канстатацыяў тыпу: «X з’яўляецца чалавекам»?

Вось жа ўсе пералічаныя тут імператывы, ад (1) да (12), грунтуюцца ні на чым іншым, як на этычнай веры. У біялагічным плане ўсе пералічаныя вышэй катэгорыі жывых істот (габрэі, беларусы, буржуі, бамжы, сіроты, чалавечыя эмбрыёны і г.д.) належаць да гатунку homo sapiens, але ці ўсім ім прызнаём права называцца чалавекамі — гэта ўжо пытанне этычнай веры, маральнай спеласці, адвагі, высакароднасці, г.зн. пазанавуковых каштоўнасцяў. Некаторыя адмаўляюцца або адмаўляліся прызнаваць людзьмі класавых ворагаў, іншыя — габрэяў, яшчэ іншыя — нованароджаных дзетак.

І справа тут не ў тым, не валодалі яны або не валодаюць адпаведнымі ведамі. Праблема ў тым, што яны *не вераць у існаванне чалавека*: ці ў габрэю, ці ў негру, ці ў прыгонным селяніне. Нявер’е ў існаванне чалавека ва ўлонні маці — праблема дакладна таго ж тыпу.

## 3. Прэзумпцыя невінаватасці і прэзумпцыя чалавечасці

Не буду арыгінальным, калі зацемлю, што бірка «рэлігійны» ў многіх секулярных асяроддзях выконвае прыкладна такую ж функцыю, што бірка «буржуазны» ў савецкім (дарэчы, наскрозь секулярным) дыскурсе.

Калі не хапае аргументаў або не стае інтэлектуальных сілаў для дыскусіі, то часцяком вельмі зручна ахарактарызаваць нешта як «рэлігійнае» (або, яшчэ лепш, у спалучэнні: «рэлігійна-кансерватыўнае»), каб паставіць кропку і ўхіліцца ад далейшай дыскусіі.

Такі падыход заўважаецца і ў часе дыскусій вакол абортаў. «*Надзяленне чалавечых эмбрыёнаў чалавечай годнасцю — гэта чыста рэлігійная пазіцыя*». Сказаўшы гэта, некаторыя пачуваюцца звольненымі ад далейшага мыслення і спробы крытычна асэнсаваць сказанае імі самімі. А такое асэнсаванне тут дужа патрэбнае. Бо калі хтось адмаўляецца прызнаць паўстанне зіготы крытэрам пачатку чалавечага жыцця, ён абавязаны прадставіць і абгрунтаваць альтэрнатыўны крытэр. А паколькі цана магчымай памылкі надзвычай вялікая (жыццё чалавека!), то гэты крытэр мусіць спаўняць строгія ўмовы:

а) павінен быць дакладны і адназначны не ў меншай ступені, чым крытэр паўстання зіготы;

б) павінен змяшчаць ясны адказ на пытанне, па якіх прычынах істота I да моманту M лічыцца не-чалавекам, а ад моманту M — чалавекам;

в) адказ на пытанне, пра які гаворка ў (б), павінен быць абгрунтаваны на 100%.

Праціўнікі аховы жыцця-адзачацця ўжо на этапе (а) маюць сур’ёзныя праблемы. «Разумнасць», «цялесная цэльнасць» — такія расплывістыя, падатлівыя на дзясяткі розных інтэрпрэтацый крытэры тут абсалютна непрымальныя.

І тут секулярныя ідэолагі пускаюць у ход свой улюбёны «аргумент»: *існуюць розныя погляды наконт пачатку жыцця чалавека, значыць, аборты дапушчальныя*. Чаму гэты аргумент улюбёны, здагадацца няцяжка: вонкава ён выглядае як экспрэсія ліберальнай веры. Толькі вось дзіўнае супадзенне: гэты тып «лібералізму» вельмі любяць розныя дыктатары, калі заяўляюць, кшталту: *існуюць розныя погляды наконт таго, што такое дэмакратыя, такім чынам, не ўмешвайцеся ў нашы ўнутраныя справы, мы маем права ажыццяўляць сваё разуменне дэмакратыі*.

Пры абмяркоўванні дылемы *чалавек — не-чалавек* у дачыненні да чалавечага эмбрыёна павінны дзейнічаць не менш строгія прынцыпы, чым пры абмяркоўванні дылемы *невінаваты — вінаваты* ў кантэксце юрыспрудэнцыі.

**Я не веру, што «права на аборт» робіць жанчыну шчаслівейшай, радаснейшай і свабоднейшай**

## 4. Аборт як метад вызвалення жанчыны

(13а) «Чалавечы эмбрыён — гэта частка жаночага цела...» — гэтая канстатацыя з’яўляецца ў тэксце спадарыні Шпарагі падставай для высновы:

(13б) «...значыць, жанчына мае права забіць чалавечы эмбрыён».

Ну так, у лексіконе расплывістых паняццяў (апрача разумнасці і цялеснай цэльнасці) не хапала яшчэ аднаго расплывістага паняцця — часткі. Каб унаявіць яго праблемнасць, прапаную прыгледзецца, як яно функцыянуе ў розных кантэкстах:

(14а) Палец — гэта частка майго цела...

(15а) Чалавек — гэта частка грамадства...

(16а) Жонка — гэта частка сям’і...

І цяпер, калі прызнаем універсальную важнасць аргумента, які адпавядае такой схеме: *Y ёсць часткай X, значыць, X мае права знішчыць Y*, то правамоцнымі павінны быць таксама наступныя высновы:

(14б) ...значыць, я маю права знішчыць свой палец;

(15б) ...значыць, грамадства мае права забіць чалавека;

(16б) ...значыць, сям’я мае права забіць жонку.

Аборт — гэта не што іншае, як знішчэнне часткі жанчыны, прычым вельмі істотнай і фундаментальнай: *знішчэнне яе мацярынскага вымярэння*. Аборт — гэта гвалт над мацярынскім інстынктам; гвалт, які ў плане фізічных, псіхічных і маральных наступстваў не менш разбуральны і прыніжальны, чым сэксуальны гвалт. І калі ахвярай абортаў № 1 з’яўляецца маленькае, бездапаможнае дзіцятка, то ахвярай № 2 з’яўляецца жанчына, ва ўлонні якой здзяйсняецца гэта злачынства.

Я не веру, што «права на аборт» робіць жанчыну шчаслівейшай, радаснейшай і свабоднейшай. Сумняюся таксама, што «абортаздольныя» жанчыны больш эмансіпаваныя і аўтаномныя ў адносінах да мужчын. Права на аборт фаварызуе ў першую чаргу пэўны тып мужчын, а менавіта тых, хто зацікаўлены мець у сваім распараджэнні пэўны набор жаночых целаў, якія можна — без абавязкаў і думання пра наступствы — адвольна выкарыстоўваць.

* * *

Так сталася, што — статыстычна беручы — пераважная колькасць абаронцаў жыцця зачатых дзяцей месціцца ўнутры хрысціянскай супольнасці. І гэта адзін з тых момантаў, калі сапраўды хочацца ганарыцца прыналежнасцю да гэтай супольнасці. Дзейнасць рухаў pro-life тым больш заслугоўвае павагі і салідарнасці, калі зважым, што такая дзейнасць зазвычай азначае заняцце нонканфамісцкай пазіцыі, неабходнасць проціставіцца прэсінгу асяроддзя і дамінoўнай ідэалогіі, вымагае адвагі і маральнай рашучасці.

Тым не менш, трэба памятаць, што кола хрысціян і кола абаронцаў зачатага жыцця не атаясамліваюцца. Ёсць хрысціяне (у тым ліку і католікі), якія апраўдваюць альбо падтрымліваюць практыку абортаў; з другога боку, існуюць агностыкі і атэісты, якія выступаюць за абарону жыцця чалавека ад самага зачацця. Адсотак гэтых апошніх вельмі малы, але яны ёсць. Нямала праціўнікаў абортаў таксама сярод прадстаўнікоў нехрысціянскіх рэлігій, асабліва юдаізму і ісламу.

Усіх абаронцаў жыцця зачатых дзяцей аб’ядноўвае вера ў вартасць жыцця *кожнага* чалавека, аб’ядноўвае глыбокі маральны боль, трывога за будучыню гуманістычных традыцый і непрыманне селектыўнага гуманізму, які выбарачна абараняе правы чалавека.

**Пётра Рудкоўскі ОП**

нарадзіўся ў 1978 у Канвелішках (Воранаўскі раён). Манах-дамініканец, ксёндз, у Варшаўскім дамініканскім кляштары працуе над доктарскай дысертацыяй. Скончыў Ягелонскі ўніверсітэт. Лаўрэат прэміі Arche «За сумленнае слова» (2005). Выдаў кнігу «Паўстанне Беларусі» (2007).

## ІМПРЭЗЫ

### Вялікі навагодні Баль у Вялікім тэатры

**13 студзеня а 21-й Тэатр оперы і балета** запрашае на навагодні баль. Парадны пад'езд будзе адкрыты з 20-й. Абавязковая ўмова ўдзелу ў Балі — вечаровы строй для жанчын, смокінг альбо фрак для мужчын. Карнавальныя строі вітаюцца!

### Рыхтуем Шчодры вечар

**Музей народнай архітэктуры і побыту 12 студзеня а 13-й** запрашае на «Рыхтуем Шчодры вечар». Кожны мае магчымасць на ўласныя вочы ўбачыць «Жаніцьбу Цярэшкі», абрад «Святое Ражство радасць прынясло», калядную абрадавую праграму ад узорнага фальклорнага ансамбля «Рудабельскія зорачкі».

## КАНЦЭРТЫ

### Камерата

**11 студзеня а 19-й у Беларускай дзяржаўнай філармоніі** — канцэрт «Камераты».

### Кельцкія каляды

**13 студзеня а 19-й у «Лісінай нары» (Каліноўскага, 32)** — традыцыйныя «Кельцкія каляды» разам з гуртамі «Эйрут» і «Джолі Грын».

### Akute




**11 студзеня а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна 16)** — канцэрт гурта Akute.

# Чэмпіянат свету па гандболе


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Ад 11 да 27 студзеня ў Іспаніі** адбудзецца чэмпіянат свету па гандболе. Упершыню за доўгі час на такім спаборніцтве згуляюць беларусы. Нашы хлопцы заваявалі правы згуляць на першынстве ў змаганні са Славакіяй.
Беларусы будуць у групе C у горадзе Сарагоса.

Расклад гульняў наступны.
12 студзеня: Польшча — Беларусь (пачатак а 22:15).
14 студзеня: Беларусь — Сербія (пачатак а 20:00).
15 студзеня: Паўднёвая Карэя — Беларусь (пачатак а 17:45).
17 студзеня: Славенія — Беларусь (пачатак а 17:45).
19 студзеня: Беларусь — Саудаўская Аравія (пачатак а 17:45).
Чатыры наймацнейшыя каманды выйдуць з групы. Трансляцыі будуць на тэлеканале «Беларусь-2».




### «Тры Жызэлі»

Жыццёвы шлях жанчыны — заўсёды цікавая гісторыя. Пры гэтым, калі старонкі лёсу пачынаюцца менавіта ў сапраўднай Францыі, а спыняюцца ў ціхай беларускай вёсцы — абставіны захапляючыя ўдвая.
Падзеі п'есы Андрэя Курэйчыка, створанай паводле рэальнай гісторыі жыцця Жызэль Купэс, адбываюцца ў трох этапах: Францыя 1940 года, беларуская вёска Карзуны ў 1957 і 1999. Аб чым марыць маладая дзяўчына Жызэль, што адчувае дарослая жанчына Жызэль Купэс, кардынальна змяніўшы лёс, і аб чым шкадуе сталая «Жызэлька» ў атачэнні сваіх вясковых суседзяў? Спектакль менавіта аб гэтым.

### Песня пра долю

**12 студзеня а 19-й у дзяржаўнай філармоніі** — рок-опера «Песня пра долю» Янкі Купалы з музыкай Уладзіміра Мулявіна.

### Уладзіміру Высоцкаму — 75

**20 і 22 студзеня а 19-й у «Лісінай нары» (Каліноўскага, 32)** — канцэрт для аматараў творчасці Уладзіміра Высоцкага. Галоўны госць канцэртнай праграмы — музыка Яўгеній Чулкоў (Ніжні Тагіл, Расія).

## ВЫСТАВЫ

### Алтарная скульптура і мастацкія тканіны Беларусі XVII–XIX стст.

**Да 21 студзеня ў Мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе выстава «Алтарная скульптура і мастацкія тканіны Беларусі XVII–XIX стст.» На выставе — звыш 30 твораў культавай драўлянай скульптуры эпохі барока, а таксама ўзоры мастацкага ткацтва.

### Графіка Фабера дзю Фора

**Да 22 студзеня ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Вайна 1812 года вачыма відавочца. Графіка Фабера дзю Фора». Мастак быў палкоўнікам напалеонаўскай «Вялікай Арміі». Выстава яго малюнкаў — унікальная магчымасць пабачыць Беларусь дафатаграфічнай эпохі.

### Terra Nova

**Да 23 студзеня ў галерэі «Ракурс»** Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі працуе IV Мінскі міжнародны фестываль лічбавага мастацтва Terra Nova. Праграма фестывалю ўключае выстаўку лічбавай фатаграфіі і камп'ютарнай графікі, а таксама відэапрагляды на працягу месяца ў галерэі «Лабірынт» і зале адукацыйных тэхналогій Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

### Дзённік

**Да 19 студзеня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава Валерыя Песіна «Дзённік/Diary». У сваім праекце Валеры Песін зводзіць паняцці мастацкай творчасці і пісьмовы жанр — вядзенне дзённіка, называючы свае творы «нататкамі, пуцявымі зацемкамі».

## ТЭАТРЫ

### 10 студзеня

**Оперы і балета** — «Багема»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»
**Юнага гледача** — «Міхалава зямля»

### 11 студзеня

**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»

### 12 студзеня

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»

### 13 студзеня

**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Лялек** — «Жудасны спадар Ау»
**Купалаўскі** — «Лістапад. Андэрсэн»
**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»

### 14 студзеня

**Купалаўскі** — «Лістапад. Андэрсэн»

### 15 студзеня

**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»

### 16 студзеня

**Лялек** — «Чароўныя падарункі»
**Оперы і балета** — «Князь Ігар»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Купалаўскі** — «Янка Купала. Кругі раю»
**Купалаўскі** — «Гендэль Бах»
**Юнага гледача** — «Ліса і вінаград»

### 17 студзеня

**Лялек** — «Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»
**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»
**Оперы і балета** — «Рыта, альбо Пірацкі трохкутнік»

## КІНО

### У лодцы з тыграм

**Жыццё Пі** (Life of Pi)
ЗША—Кітай, 2012, каляровы, 127 хв.
**Рэжысёр:** Энг Лі
**Ролі выконваюць:** Сурадж Шарма, Ірфан Кхан, Жэрар Дэпард'ё, Рэйф Спол, Табу
**Жанр:** Прыгоды паводле рамана Яна Мартэла
**Адзнака:** 7,5 (з 10)

Герой стужкі адпраўляецца з бацькамі на караблі перавезці жывёлаў для заапарка. Але карабель трапіў у шторм — і герой апынуўся ў адной лодцы з зебрай, арангутангам, гіенай і тыграм.
Стужка засяроджваецца на паядынку-сяброўстве юнака і бенгальскага тыгра, партыю дасканала вядзе індыйскі акцёр Сурадж Шарма. Іншыя персанажы — эпізадычныя, што не замінае ім быць вельмі яскравымі (наваспечаны грамадзянін Расіі Жэрар Дэпард'ё бліснуў у ролі злобнага карабельнага кухара).
Фінал карціны раскрывае такія тайны душы героя, пра якія мы не здагадваліся.

**Андрэй Расінскі**



# Нэтбукаў больш не будзе

Апошнія дзве кампаніі закрылі вытворчасць. Што прыйдзе на змену нэтбукам?

Рынак нэтбукаў быў закрыты з пачатку 2013. Гэта адбылося пасля таго, як кампаніі Asus і Acer вырашылі згарнуць іх выпуск.

Яны заставаліся апошнімі вытворцамі нэтбукаў, і тое перадусім прадавалі сваю прадукцыю ў Паўднёва-Усходняй Азіі і Паўднёвай Амерыцы. Цяпер іх дылеры будуць распрадаваць тыя мадэлі, што засталіся на складах.

Змяншэнне папулярнасці нэтбукаў было выклікана распаўсюдам планшэтаў і смартфонаў з вялікім экранам. Лічбы продажаў гэтых прыладаў адсутнічаюць, тым больш што многія беларусы купляюць іх у суседняй Польшчы.

Ва ўсім свеце за 2012 было прададзена 820 мільёнаў планшэтаў і смартфонаў. Гэта 70% ад агульнага аб'ёму паставак персальных вылічальных прыладаў. Мяркуецца, што сёлета продажы павялічацца яшчэ на 50%.

У Беларусі найбольшай папулярнасцю карыстаюцца два супрацьлеглыя класы планшэтаў. З аднаго боку гэта дарагія іміджавыя прылады накшталт iPad 3 і Samsung Galaxy Note, кожны з якіх у залежнасці ад камплектацыі каштуе $600—900. З адваротнага — недарагія мадэлі кампаній Prestigio, Ritmix, Huawei, якія прадаюцца па $200—300.

Планшэты перадусім створаныя для адпачынку — інтэрнэт, відэа, музыка... Прычым працаваць за імі хутка прывыкаюць і дзеці — яны ўспрымаюць прыладу як дарагую цацку. Апроч гульняў, на іх можна ўсталёўваць і безліч адукацыйных праграмаў. За кошт інтэрактыўнасці яны дапамагаюць лепш засвойваць матэрыял.

**Ягор Марціновіч**

**Эвалюцыя разумных мабільных прыладаў**




**Смартфоны. Экран — 3—7 цаляў, сэнсарны экран. Прызначэнне — тэлефон, інтэрнэт.**



**Ультрабукі. Экран — 11—13 цаляў. Прызначэнне — больш лёгкая і дарагая альтэрнатыва ноўтбуку.**



**Нэтбукі. Экран — 7—12 цаляў, без праёма для DVD. Прызначэнне — лёгкі дарожны ноўтбук з нізкім энергаспажываннем.**



**Планшэты. Экран — 7—10 цаляў, сэнсарны экран. Прызначэнне — інтэрнэт, кіно, музыка, гульні.**




**Ноўтбукі. Экран — 14—16 цаляў. Прызначэнне — офісная праца.**

## Акуляры-алені, вінтажны фен-рэвальвер

Чым парадавалі дызайнеры за год?

Цікавыя дызайнерскія рашэнні для побытавых прадметаў, офіса, адзення, аксесуараў і іншых штучак з'яўляюцца з зайздроснай паслядоўнасцю. І хоць наконт функцыянальнасці некаторых можна паспрачацца, у іх здольнасці ўзняць настрой сумнявацца не варта. Фантазіі чалавека, на шчасце, няма мяжы.

**Adme.ru**



**«Кніжны чарвяк» — паліца для кніг ад галандскіх дызайнераў.**



**Акуляры-алені.**



**Смешныя вешалкі для адзежы і добрага настрою ад Urban Outfitters.**



**Цікавая фіранка для душа.**

**Тэхналогіі**

## У Мінску з'явіўся першы фотакіёск

Устаўляеш картку памяці ці флэшку — атрымліваеш раздрукаваны здымак.

У гандлёвым цэнтры «Замак» на праспекце Пераможцаў запрацаваў фотакіёск «Міцубісі». З выгляду ён нагадвае банкамат, але выдае не грошы, а здымкі.

Прынцып працы просты. Спачатку кліент устаўляе ў апарат флэшку, дыск, картку памяці ці нават скідвае здымкі па Bluetooth. Распрацоўшчыкі даводзяць, што фотакіёск працуе з 18 відамі носьбітаў.

Здымкі, якія адлюструюцца на 17-цалевым маніторы, можна адрэдагаваць аўтаматычна, а можна падправіць самому. Экран сэнсарны, таму давядзецца папрацаваць пальцамі.

З дапамогай усталяваных праграм з фотаў можна стварыць каляндар ці кнігу, а пасля адправіць іх на друк — фотапрынтар знаходзіцца ў самім кіёску.

Сабекошт здымка 10×15 см складае 1450 рублёў. Карыстальнікі сэрвісу заплацяць за яго 2490 рублёў. Здымак памерам 15×20 см будзе каштаваць 5700 рублёў пры сабекошце 4400 рублёў. Цэны прыблізна такія ж, як у звычайных фотацэнтрах.

За 20-старонкавы каляндар давядзецца заплаціць ад 59 000 рублёў. За фотакнігу — ад 138 тысяч рублёў.

На Захадзе такія апараты карыстаюцца вялікай папулярнасцю — людзі не хочуць, каб нехта бачыў іх асабістыя фоты, таму не ідуць у фоталабараторыі. У інтэрнэт-каталогах кіёскі «Міцубісі» прадаюцца па 6250 еўра.

**ЯМ**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Сцісла

### Інтэрнэт-кафэ можна будзе наведваць без пашпарта

Ад 22 студзеня 2013 будуць дазволеныя альтэрнатыўныя спосабы ідэнтыфікацыі карыстальнікаў. Кліентаў змогуць здымаць на відэа ці фатаграфаваць замест праверкі пашпартоў.

### У Еўропе вынайшлі лекі для алкаголікаў

Прэпарат Selincro блакуе дзеянне пэўных рэцэптараў у галаўным мозгу чалавека, залежнага ад алкаголю. Selincro рэкамендавана спалучаць з псіхалагічнай і сацыяльнай падтрымкай.

### Пачалася кампанія па зімовым уліку птушак

У мерапрыемстве могуць узяць удзел усе ахвотныя. Для гэтага неабходна ў любы дзень студзеня выйсці на вуліцу населенага пункта або выехаць на прыроду і палічыць усіх сустрэтых птушак. Можна зрабіць кармушку для птушак, што аблегчыць назіранне за імі. Асабліва важна ўлічыць вадаплаўных птушак.

### Доступ да інтэрнэту маюць 76% сем'яў Еўрасаюза

Сярод лідараў — Галандыя (94%), Люксембург (93%) і Данія (92%). Найгоршыя ў гэтым плане краіны Еўрасаюза — Балгарыя (51%), Румынія і Грэцыя (па 54%). Адметна, што ў кожнай з 27 краінаў Еўрасаюза больш за палову насельніцтва мае доступ да сеціва.

### Ва Узбекістане забаранілі Дзеда Мароза

Гэта адна з мер па ачыстцы ўзбекскай культуры ад савецкай і расійскай спадчыны. Навагоднія ялінкі яшчэ ставяць на плошчах узбекскіх гарадоў, святочныя мерапрыемствы для дзяцей усё яшчэ арганізуюць — але адбываецца ўсё гэта ў значна сціплейшых маштабах, чым у савецкі час. Мусульманская краіна адзначае іншыя святы.

**ЯМ**




**Літвінковіча ў Мінску сустрэлі караваем і аўтобусам з аддзела культуры. Спявак вяртаўся пасля ўдзелу ва ўкраінскім шоу «Х-Фактар-3». Ураджэнец Жодзіна (тут жывуць яго маці і сястра) Яўген Літвінковіч дайшоў да суперфіналу, але там саступіў. Браў удзел ён і ў конкурсах у Мінску, але ў Беларусі яго талент не ацанілі. Болей пра гэта — на старонцы 2.**




**Плэймэйкер «Беразіны» і гулец моладзевай зборнай краіны па баскетболе, 20-гадовая Хрысціна Туромша, наважылася на аголеную фотасесію.**



**Вядомы французскі акцёр Жэрар Дэпард'ё атрымаў расійскі пашпарт. Загад пра наданне грамадзянства падпісаў прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін. З Францыі Дэпард'ё эміграваў, бо не хоча плаціць вялікія падаткі, якія ўвяла для багатых сацыялістычная партыя Францыі.**




**У Вілейцы перад Новым годам з'явіўся помнік дворніку. Двухметровую кампазіцыю стварыў супрацоўнік Вілейскай ЖКГ Валерый Апарык.**

## Анекдоты

* * *

КДБ выклікаў індыйскіх хакераў на допыт. «Ок, — сказалі хакеры. — Мы адкажам на ўсе пытанні, але спачатку мы для вас праспяваем і станцуем».

* * *

Чалавек чытае сайт БелТА: «Каманда Беларусі правяла другі матч на IX Калядным турніры аматараў хакея на прыз Прэзідэнта Беларусі». І здзіўляецца: «І так ясна, што турнір — іх. Навошта і гэтае IX вялікімі літарамі пісаць?»

* * *

Агенцтва БЁПТА паведамляе, што СМС аб дэвальвацыі даслаў віцебскі слесар з дапамогай дамафона.

* * *

Калі на Новы год да вас прыйшло 10 гасцей, а відэльцаў для амараў у вас было толькі восем, то вашым праблемам можна толькі пазайздросціць.

* * *

Турыст, які вярнуўся з-за мяжы, дзеліцца ўражаннямі:

– У Аўстраліі ў супермаркетах не прынята правяраць сумкі пакупнікоў.

– Што вы хочаце — паліткарэктнасць: баяцца пакрыўдзіць кенгуру.

* * *

Кожны мужчына ў сакрэце ад жонкі мае права прапыласосіць ката.

* * *

Калі з першага разу не выходзіць, то парашутны спорт не для вас.

* * *

— Прывітанне, як маешся?
— Мяне з універа выгналі.
— Ого... чаму?
— Ды хрэн разбярэшся, я там паўгода не быў.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Краслаўка. Курляндская губерня.** Адбылася тут вечарынка, на каторай была пастаўлена камедыя «Міхалка» па-беларуску. Увесь час, як ігралі камедыю, публіка гудзела як пчолы ў вуллі ад задавальнення. Публікі на вечарынцы было больш, чым магла зала стоўпіць, так што па двое сядзела на адным крэсле.

**«НН». №1. 1913.**

**Правапіс для Прэзідэнта.** Акадэмія навук прапанавала пісаць слова «прэзідэнт» з вялікай літары ў любым значэнні. «І гэта будзе правільна, бо гэта вышэйшая асоба ў нейкай іерархіі», — кажа дырэктар Інстытута мовазнаўства Аляксандр Падлужны. «Дырэктараў вельмі і вельмі шмат, а прэзідэнты — адзінкі, дзе б яны ні былі», — дадае ён.

**«НН». №1. 2003.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8015. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 08.01.2013.
Замова №158.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
9 771819 161008 13001